● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

12 лістапада 1996 г. аўторак, № 265 (23068)

# ЗВЯЗДА



*ГРОШЫ*

## 23-ТЫСЯЧНЫ РУБЕЖ ПЕРААДОЛЕНЫ. НАПЕРАДЗЕ НОВЫЯ РЭКОРДЫ?..

Пачатак лістапада, як і папярэдні месяц, ніякіх істотных змен у курсаўтварэнне СКВ не ўнёс: па-ранейшаму нахвалісца сваёй стойкасцю беларускі рубель не можа.

Часам, крыху адступіўшы ад звыклай тэндэнцыі падзення, рубель набірае вагу, аднак хутка яе і губляе. Інфляцыйныя чаканні тут іграюць, зразумела ж, не апошнюю ролю. Так, на пазабіржавым рынку курс долара дасягнуў ужо 23.200—23.800 беларускіх безнаяўных рублёў за адзін долар. Валютчыкі, прыбыткі якіх у сувязі з апошнімі падзеямі на валютным рынку павялічыліся, прапануюць за долар да 21 тысячы рублёў, а прадаюць яго за 22 тысячы.

Атрымалася так, што камерцыйныя банкі, якія не ў стане канкураваць па наяўнай валюце з мяняламі з-за абмежавання ў курсаўтварэнні, зноў згубляюць сваіх патэнцыяльных кліентаў. Гранічны курс продажу долара, які вось ужо колькі тыдняў трымаецца на мяжы 20.150 рублёў, вядома, вельмі прываблівы для пакупнікоў «баксаў». Але трэба разумець і тое, што набыць па такому кошту долар у банку становіцца ўсё больш складана. Чэргі ля абменных пунктаў людзей, якія мяркуюць набыць валюту па такому таннаму курсу, становяцца ўсё даўжэйшымі: у асноўным, абменныя пункты здольны задаволіць попыт пакупнікоў толькі ў тым выпадку, калі з'яўляецца чалавек, які здае долар па курсу 20.000—20.050 рублёў. А пры сённяшнім раскладзе спраў такіх людзей становіцца ўсё менш.

Праўда, у адрозненне ад мноства камерцыйных банкаў некаторыя фінансавыя ўстановы навучыліся працаваць і ў «безвыходнай» сітуацыі. Бадай, самы паказальны тут прыклад «Мінсккомплексбанка», праз абменныя пункты якога здаваць валюту, напрыклад, сёння вельмі выгадна, чаго, аднак, не скажаш пра куплю наяўнага. Уся справа ў тым, што банк купляе і прадае долары за ўкраінскую грыўну. Так, курс куплі долара ЗША за грыўну складае 1.752, курс продажу — 1.788. На ўчарашні дзень, такім чынам, курс куплі ў гэтым банку складаў 21.300 рублёў за адзін долар, курс продажу — 23.011. Відавочна, дваццацітрохтысячная мяжа, якую цвёрдаканверсуемая «пераплюнула» ўжо ў лістападзе бягучага года, будзе далёка не крайняй мяжой, якую пераадолее беларускі рубель.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ЗРОБІЦЬ ПАЕЗДКУ Ў МАСКВУ

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, 13 лістапада Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Старшыня Вышэйшага Савета Супольніцтва Беларусі і Расіі А. Р. Лукашэнка зробіць рабочую паездку ў Маскву і выступіць у Дзяржаўнай Думе Расійскай Федэрацыі па пытаннях далейшага паглыблення інтэграцыйных працэсаў паміж абедзвюма краінамі.

Выступленне А. Р. Лукашэнкі ўнесена ў парадак дня Дзяржаўнай Думы пераважнай большасцю галасоў. За гэта рашэнне прагаласавалі 316 дэпутатаў, супраць — 11, устрымаўся адзін.

Бягучыя праблемы палітычнага і гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх краін будуць разгледжаны на сустрэчах А. Р. Лукашэнкі з кіраўніцтвам Адміністрацыі Прэзідэнта і ўрада Расійскай Федэрацыі. Мяркуецца таксама разгледзець ход выканання сумесных сацыяльных праграм, якія маюць вялікае значэнне для грамадзян Беларусі і Расіі.

**БЕЛТА.**

*СКАНДАЛ*

## БРУШНЫ ТЫФ У ЧЭРВЕНІ:

### МНОСТВА ЗАХВАРЭЎШЫХ, ФАКТ САМАГУБСТВА, ПАРУШЭННІ Ў ГАНДЛІ

**Назваць Чэрвень правінцыяй у агульнапрынятым сэнсе гэтага слова не выпадае — толькі крыху больш за 60 кіламетраў па добрай шашы аддзяляе яго ад сталіцы. Разам з тым Чэрвень, як, зрэшты, і іншыя невялікія гарадкі Беларусі, мае тое, што карэнным чынам адрозніване ўсе раённыя цэнтры ад вялікіх населеных пунктаў: нейкую агульную цішыню і спакой, у чые абдымкі трапляеш, ледзь сышоўшы з аўтобуса, і своеасаблівы (павольны ці што) лад жыцця навокал. Пасля мітусні сталіцы ўражанне ад ціхіх вуліц і завулкаў гарадка, як ад прыпынку пасля шалёнай гонкі. Зрэшты, пачуццё гэта падманлівае, прынамсі, такім яно будзе ў бліжэйшы час, пакуль не будуць канчаткова расстаўлены ўсе кропкі ў справе па ўспышцы захворвання на брушны тыф у Чэрвеньскім доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых. Адразу агаваруся, што ніякай панікі з гэтай нагоды ў горадзе няма і быць не можа (было падведамленне па раённым радыё), але трывожны шэпт і чуткі рознага кшталту даводзілася чуць сваімі вушамі. Таму, не замахваючыся на нейкія высновы (гэта справа кампетэнтных органаў), з дапамогай афіцыяльных дакументаў і выкладу журналісцкай камандзіроўкі проста паспрабуем аднавіць храналогію пэўных падзей.**

***З афіцыяльнай даведкі мясцовага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі на імя пракурора Чэрвеньскага раёна:***

«...4 кастрычніка г. г. трактарам быў разбураны аглядны калодзеж на выпуску каналізацыйнага калектара ад ізалятара хранічных бактэрыяносьбітаў. Мела месца расцяканне на грунт сцёкавых вод. Разбураны калодзеж размешчаны па ходу перамяшчэння забяспечваемых (г. зн. хворых з інтэрната. — **С. Р.**) на працу на малочную ферму. Паводле слоў абслугоўваючага персаналу, даяркі з ліку забяспечваемых елі яблыкі, якія падалі з яблыні ў сцёкавыя воды, мылі іх абутак.

Улічваючы становішча, якое склалася, можна выказаць меркаванне аб наступным механізме перадачы інфекцыі. Пасля кантакту са сцёкавымі водамі даяркі ў працэсе даення кароў заінфіцыравалі (унеслі інфекцыю. — **С. Р.**) малако... 1, 5, 8, 9 кастрычніка г. г. згодна з меню забяспечваемым на харчаванне выдавалася сыраквашa, прыгатаваная на харчблоку дома-інтэрната. Санэпідслужбай раёна неадназова забаранялася прыгатаванне сыраквашы ва ўмовах дома-інтэрната.

Першая захварэўшая (санітарка) ужывала сыраквашу. Пачатак захворванняў па тэрмінах укладваецца ў інкубацыйны перыяд. Водны шлях перадачы інфекцыі можна выключыць, таму што пры такім механізме перадачы «прадвеснікам» хваробы на брушны тыф павінна з'явіцца, як правіла, захворванне на вострыя кішэчныя інфекцыі рознай этыялогіі з невялікім, у параўнанні з брушным тыфам, інкубацыйным перыядам. Не выключаецца магчымасць перадачы інфекцыі і з яблыкамі, якія сабралі ў раёне аварыі каналізацыйнай сістэмы і выдалі на харчаванне забяспечваемых.

**Выснова:** Крыніца інфекцыі — хранічны бактэрыяносьбіт (бактэрыяносьбіты) ізалятара для гэтай катэгорыі забяспечваемых. Шлях перадачы інфекцыі — харчовы. Характар успышкі — востры...»

Тыф — хвароба далёка не будзённая. Ад яе патыхае калі не часамі грамадзянскай вайны, дык дакладна — Вялікай Айчыннай. У канцы XX стагоддзя яе наяўнасць (пры сучасных леках і спосабах лячэння) успрымаецца ледзь не як дзікунства, нейкае вар'яцтва. І тым не менш...

Ад вакзала да цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ісці пехатою мо хвілін 20—25. Па шляху вырашаю пераканацца, што людзям вядома аб хваробе і папярэджальных мерах (павінна дзейнічаць і выконвацца забарона на продаж прыватнага малака, паколькі не выключана, што санітаркі маглі занесці ў яго інфекцыю дома, а потым яно было прададзена, а таксама на продаж крэмавых вырабаў, бо ў іх узбуджальнікам тыфу — найлепшае асяроддзе). У самім будынку вакзала буфет адсутнічае, таму першае пытанне дзяўчыне з піўнога кіёска побач з ім. «Не, нічога не чула і забароны на гандаль півам не было». Наступны «ход» — мясцовая сталоўка. У вялікай зале ціха і пуста. На рэха крокаў з кухні выглядае жанчына. Пытаюся, ці накормяць. Пакуль повар пераказвае меню, высвятляю, што ў іх чуваць наконт тыфу. Ведаць аб ім ведаюць, санстанцыя папярэджвала, але забароны на працу няма, крэмавыя вырабы ў продажы адсутнічаюць. Дарэчы, людзей тут няма хутчэй за ўсё па іншай прычыне: зараз у сталоўках найчасцей харчуюцца толькі камандзіраваныя. Развітваюся, крочу далей. Побач з хлебным магазінам прыватнікі з навакольных вёсак гандлююць малаком з уласных падворкаў. Цана за трохлітровік — 12 тысяч рублёў.

«Добры» пачатак! На падыходзе да цэнтра гігіены і эпідэміялогіі збочваю на мясцовы рынак, балазе, у выхадны дзень на ім хапае і прадаўцоў, і пакупнікоў. Акурат каля ўваходу ля століка з конусам з цеста і крэмам завіхаецца жанчына. На пытанне, ці ведае яна аб забароне на гэты гандаль, прадавец нервуецца, напэўна, напалохаўшыся ад нечаканасці, але ўсё ж прызнаецца, што ведае аб забароне, але ёй сказалі — яна прадае... Тут жа вырашаю зайсці ў кулінарыю побач з рынкам. У вітрыне красуюцца тарты, піражныя. Прадаўшчыца кажа, што тарты свежыя, завезлі літаральна ўчора...

***З сумеснай даведкі па выніках эпідрасследавання ўспышкі брушнога тыфу ў Чэрвеньскім доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых, падпісанай медыкамі раёна і рэспублікі:***

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## ПРАЗ БЕЛАРУСЬ, МАГЧЫМА, ПРАЛЯЖА ЕЎРААЗІЯЦКІ ТРАНСПАРТНЫ ШЛЯХ

Своеасаблівым вынікам афіцыйных сустрэч у Мінску ўрадавай дэлегацыі Кітая на чале з віцэ-прэм'ерам Дзяржсавета КНР Лі Ланьцінам сталі перамовы кітайскага госця з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам. Сустрэча адбылася 9 лістапада ў рэзідэнцыі кіраўніка нашай дзяржавы.

Адкрываючы сустрэчу, Аляксандр Лукашэнка выказаў думку аб тым, што ва ўзаемаадносінах Беларусі і Кітая цяпер асаблівых праблем няма. Ён падкрэсліў, што сустрэчы на вышэйшым узроўні паміж кіраўніцтвам абедзвюх краін праводзіцца даволі часта. Таму з самага пачатку гутаркі ўвага была засяроджана на пытаннях, вырашэнне якіх, на думку беларускага Прэзідэнта, залежыць менавіта ад яго.

Адказваючы на пытанні журналістаў пасля заканчэння сустрэчы, віцэ-прэм'ер Дзяржсавета КНР адзначыў, што прэзідэнтам з кіраўніком беларускай дзяржавы перамовы закранулі ў асноўным развіццё гандлёва-эканамічнага дыялогу паміж Беларуссю і Кітаем. Лі Ланьцін коратка праінфармаваў Аляксандра Лукашэнку аб тых напрамках двухбаковага супрацоўніцтва, якія былі вызначаны ў ходзе сустрэч віцэ-прэм'ера Дзяржсавета Кітая ў беларускай сталіцы.

Будучыня беларуска-кітайскіх узаемаадносінаў, на думку Лі Ланьціна, не толькі ў расшырэнні двухбаковага гандлю, але і ў стварэнні сумесных прадпрыемстваў, умацаванні навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі. Віцэ-прэм'ер Дзяржсавета КНР выказаў гатоўнасць кітайскага боку больш канкрэтна разглядаць магчымасць удзелу бізнесменаў яго краіны ў фарміраванні свабоднай эканамічнай зоны (СЭЗ) у Беларусі. Больш таго, у ходзе сустрэч у беларускай сталіцы, паводле яго слоў, абмяркоўвалася пытанне ўдзелу нашай рэспублікі ў фарміраванні СЭЗ у Кітаі. Пакуль супрацоўніцтва ў гэтым напрамку, паводле узаемнай дамоўленасці, прадугледжваецца ажыццяўляць на ўзроўні экспертаў, якія на месцах будуць знаёміцца з сітуацыяй.

Паводле слоў віцэ-прэм'ера, абмяркоўвалася ў час перамоў і стратэгічнае пытанне — пракладка еўраазіяцкага транспартнага шляху праз Беларусь, Расію, Азію ў Кітай.

У ходзе гутаркі з Аляксандрам Лукашэнкам разгледзаліся і пытанні ўдзелу абедзвюх дзяржаў у міжнародных арганізацыях, а таксама шэраг праблем сусветнага маштабу, якія закранаюць інтарэсы Беларусі і Кітая.

Што ж датычыць візіту ў нашу рэспубліку старшыні КНР Цзян Цзэміня, які атрымаў запрашэнне ад Аляксандра Лукашэнкі раней, то, паводле слоў віцэ-прэм'ера Дзяржсавета Кітая, тэрміны яго будуць абмяркоўвацца ў бліжэйшы час па дыпламатычных каналах абедзвюх дзяржаў.

У гэты ж дзень кітайскі госць наведаў Беларускі дзяржаўны універсітэт. У час сустрэчы з рэктарам Лі Ланьцін азнаёміўся з гісторыяй ВНУ, якая якраз сёлета адсвяткавала юбілей, навучальным працэсам і дасягненнямі БДУ. Паралельна ў Міністэрстве прамысловасці і ў Міністэрстве сувязі і інфарматыкі Беларусі праходзілі перамовы з прадстаўнікамі кітайскай кампаніі дакладнага машынабудавання і тэлекамунікацыйнай кампаніі «Хуа Вэй».

У другой палове дня віцэ-прэм'ер Дзяржсавета КНР усклаў вянок да помніка-абеліска на плошчы Перамогі і ўшанаваў хвілінай маўчання памяць воінаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**




## КАШАЛЁК БУДЗЕ ЛЯГЧЭЙШЫ...

Як мы ўжо паведамлялі, з 17 кастрычніка гэтага года Нацыянальным банкам Беларусі ўведзены ў абарачэнне разліковы білет Нацбанка вартасцю 100 000 рублёў. Новая купюра мае сем ступеняў абароны. На адным баку банкноты — выява будынка Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, на другім — выява фрагмента з балета Яўгена Глебава «Выбранніца» паводле паэмы Янкі Купалы.




## У «МАГНАТБАНКА», «ДУКАТА» І «ІНТЭКСА» ЧАСОВАЕ КІРАВАННЕ

**У сувязі з устойлівай стратнасцю і неплацежаздольнасцю ў банках «Дукат», «Інтэкс» і «Магнатбанк» з 1 лістапада ўведзена часовае кіраванне Нацыянальнага банка на тэрмін да 3 месяцаў.**

Асноўнымі задачамі часовага кіравання з'яўляюцца: вывучэнне фінансавага становішча банка, захаванне або аднаўленне ліквідных актываў, зыходзячы з інтарэсаў укладчыкаў і крэдытораў, стварэнне эфектыўнага апарату кіравання, правядзенне мерапрыемстваў па фінансаваму аздараўленню банкаў.

Калі неабходна, часовае кіраванне можа звяртацца ў суд з заявай для вырашэння пытання аб экананамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве банкаў.

**Дзмітрый ГРЫВЕНСКІ.**

## ПАСОЛЬСТВА ПОЛЬШЧЫ Ў НАШАЙ РЭСПУБЛІЦЫ ЎЗНАЧАЛІЛА ЕВА СПЫХАЛЬСКА

**Беларусь і Польшчу звязваюць не толькі граніцы, але і сваяцкія сувязі паміж многімі беларусамі і палякамі, якія часта разам адзначаюць нацыянальныя і рэлігійныя святы. 11 лістапада — Дзень незалежнасці Рэспублікі Польшча.**

Сімвалічным для ўзаемаадносінаў дзвюх дзяржаў можна лічыць той факт, што менавіта ў гэты святочны для суседняй краіны дзень Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прымаў даверчыя граматы ад новага Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Польшчы ў нашай краіне Евы Спыхальскай.

Паводле слоў кіраўніка беларускай дзяржавы, інтарэсы Польшчы, якія распаўсюджваюцца далёка на ўсход, супадаюць у многім з інтарэсамі нашай краіны. Прэзідэнт выказаў надзею, што за час знаходжання польскага дыпламата на беларускай зямлі адносіны Беларусі і Польшчы ўзнімуцца на больш высокі ўзровень, і будзе дасягнута ўзаемаразуменне па ўсіх без выключэння пытаннях. А на праблемы, што існуюць цяпер у беларуска-польскіх адносінах, паводле слоў Аляксанддра Лукашэнкі, робіць негатыўны ўплыў перш за ўсё «паток дэзінфармацыі, якая накіроўваецца ў Польшчу з боку апазіцыі беларускаму Прэзідэнту».

Ацэньваючы пасля заканчэння сустрэчы з Прэзідэнтам Беларусі ўзаемаадносіны суседніх дзяржаў, Ева Спыхальска адзначыла, што пачатак раўнапраўнага беларуска-польскага дыялогу пакладзены кіраўнікамі абедзвюх краін Аляксандрам Лукашэнкам і Аляксандрам Квасьнеўскім у ходзе іх сустрэчы ў гэтым годзе ў Віскулях. Будучыня яго, як лічыць дыпламат, залежыць непасрэдна ад людзей, а адкрытасць з абодвух бакоў будзе толькі садзейнічаць умацаванню і пашырэнню добрасуседскіх адносінаў.

Што ж датычыць найбольш прыярытэтных галін далейшага двухбаковага супрацоўніцтва, то Ева Спыхальска выказалася аб неабходнасці пашырэння супрацоўніцтва ў галіне транспарту. Плённым, паводле яе слоў, можа стаць абмен вопытам у галіне жыллёвага будаўніцтва. Безумоўна, не павінен спыняняцца і культурны абмен. Разам з тым, на думку дыпламата, асноўнай задачай польскага пасольства застаецца ўмацаванне кантактаў перш за ўсё ў эканамічнай сферы. Апошнім часам паяўляецца мноства праблем з-за нявырашанасці мытных пытанняў, шмат нараканняў на пагранпераходы як з боку Польшчы, так і з боку Беларусі.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

## У К А З ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
### № 453
### Аб унясенні змянення ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 23 жніўня 1996 г. № 320

Пункт 3 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 23 жніўня 1996 г. № 320 «Аб павелічэнні прыёму студэнтаў у дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 24, арт.610) выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«3. Устанавіць, што:

кошт платнага навучання ў дзяржаўнай вышэйшай навучальнай установе не павінен перавышаць фактычных затрат на падрыхтоўку спецыяліста ў гэтай навучальнай установе;

сродкі, атрыманыя ад платнага навучання ў дзяржаўных вышэйшых навучальных установах, накіроўваюцца на аплату працы іх прафесарска-выкладчыцкага персаналу, абнаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы, навучальна-метадычнае забеспячэнне і гаспадарчыя патрэбы;

выдатна паспяваючыя студэнты, якія дасягнулі высокіх паказчыкаў у навучальна-пазнавальнай і навукова-даследчай дзейнасці, могуць быць пераведзены рэктарамі дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў з платнага навучання на бясплатнае».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 лістапада 1996 г.
г. Мінск.

## У К А З ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
### № 458
### Аб унясенні змяненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 студзеня 1996 г. № 26

1. Унесці ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 студзеня 1996 г. № 26 «Аб зацвярджэнні апісання ордэнаў, медалёў і нагрудных знакаў да ганаровых званняў Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 2, арт.34) наступныя змяненні:

у абзацы трэцім апісання ордэна Воінскай Славы слова «чатырохвугольнай» замяніць словам «пяцівугольнай»;

у абзацы другім апісання ордэна Кастуся Каліноўскага слова «шасцівугольнай» замяніць словам «пяцівугольнай»;

апісанне медаля «За адвагу» выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Медаль «За адвагу» мае форму круга дыяметрам 37 мм. На вонкавым баку медаля ў верхняй яго частцы размешчана выява трох лятучых самалётаў. Ніжэй самалётаў змешчаны ў два радкі надпіс: «За адвагу», пад якім знаходзіцца выява танка. Усе выявы на медалі рэльефныя. Надпіс уціснуты, пакрыты чырвонай эмаллю. Адваротны бок медаля мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар медаля.

Медаль пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай шэрага колеру з дзвюма падоўжнымі сінімі палоскамі па краях.

Медаль вырабляецца са срэбра»;

у абзацы другім апісання медаля «За працоўныя заслугі» словы: «з дзвюма падоўжнымі жоўтымі палоскамі па краях» замяніць словамі: «з дзвюма падоўжнымі чырвонымі палоскамі па краях і цёмна-шэрай — пасярэдзіне»;

з абзаца першага апісання медаля «За бездакорную службу» выключыць словы: «і факелам».

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

6 лістапада 1996 г.
г. Мінск.

*ЦЭНЫ*

## НАЙЛЕПШЫ БАРОМЕТР ЖЫЦЦЯ: КОШТ ПРАДУКТАЎ...

Як ужо паспелі заўважыць пакупнікі, апошнім часам з цэнамі творыцца нешта незразумелае, прынамсі, назіраецца (як у тым анекдоце) разрыў паміж паняццямі «бачу» і «чую». Падаецца, ніякіх афіцыйных паведамленняў аб павелічэнні кошту прадуктаў харчавання не было, а між тым кожны раз, калі наведваеш магазін, са здзіўленнем сямтам заўважаеш новы цэннік на тым ці іншым тавары. Няхай сабе нават на тысячу-паўтары, але для некага гэта таксама грошы. Статыстыка — рэч красамоўная, і хаця ад яе мовы палёгка апошнім часам з'яўляецца далёка не кожны раз, тым не менш...

Паводле даных Камітэта цэн Мінэканомікі, у перадсвяточны тыдзень у Мінску адбылося павышэнне рознічных цэн на пшанічную муку вышэйшага гатунку з 8.600 рублёў да 9.800 рублёў за кілаграм. «Скачок» цаны тлумачыцца тым, што на складах млынкамбіната гэты прадукт адсутнічаў, і ў продаж пайшла мука ад іншага пастаўшчыка, але ўжо па больш высокіх адпускных цэнах (7.500 рублёў і вышэй), якая набывалася ў сваю чаргу ў камерцыйных структур. Павелічэнне рознічных цэн на мяса птушкі ў Мінску на 15,9 працэнта (з 35.800 да 41.500 рублёў за кілаграм), а таксама на гэты ж прадукт у Мінскай вобласці на 7,8 працэнта (з 34.800 да 37.500 рублёў) і тут жа на яйкі на 6,7 працэнта (з 10.500 да 11.200 рублёў за дзесятак) выклікана павелічэннем адпускных цэн на камбікорм. З 24 кастрычніка яго кошт павялічыўся ад 10 да 19 працэнтаў. Рознічныя цэны на селядзец у Мінску (рост на 29 працэнтаў) і Гомелі (на 24 працэнты) абумоўлены павелічэннем адпускных цэн на гэтую прадукцыю, якая завозіцца ў краіну з-за яе межаў і кошт якой «звязаны» з доларам. Апошні ж, як вядома, дзень пры дні толькі «таўсцее».

Яшчэ больш відавочнае павелічэнне кошту шэрага прадуктаў харчавання на рынках. На Камароўскім, напрыклад, літр алею з Украіны каштаваў раней 17—19 тысяч, цяпер — 21 тысячу рублёў, дзесятак курыных яек «ідзе» ўжо па 16 тысяч, куры замест ранейшых 36—37 тысяч каштуюць 39—41 тысячу рублёў за кілаграм, раствaральная кава «патаўсцела» на 2-3 тысячы... Гэты спіс можна працягваць і далей, але хіба ад гэтага цэны зменшацца? На сённяшні дзень, на жаль, цэны ўсё больш становяцца тым барометрам, які паказвае, наколькі змянілася за апошні час «пагода». Не сакрэт, што зарплаты засталіся ранейшымі, ды і долар іх добра «пакусаў». Дзякуй Богу, пакуль не «з'еў» да апошняга...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ПОГЛЯД*

## Віктар Ганчар прапануе парламенту вярнуцца да пытання даты рэферэндуму

### ПРЫЧЫНА — ГРУБАЕ ІГНАРАВАННЕ ІСНУЮЧЫХ ЗАКОНАЎ І РАШЭННЯЎ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА

**11 лістапада ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета адбылася нарада кіраўнікоў раённых, гарадскіх, абласных Саветаў са старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім, членамі Прэзідыума, старшынёй Цэнтрвыбаркома Віктарам Ганчаром. Аднак некаторыя кіраўнікі прадстаўнічых органаў улады не змаглі прыбыць у Мінск: напрыклад, на Гродзеншчыне, як заявіў С. Шарэцкі, ім адмовілі ў замоўленым аўтобусе.**

Нараду адкрыў член Прэзідыума Вярхоўнага Савета Сямён Домаш, які быў вельмі занепакоены далейшым лёсам прадстаўнічых органаў мясцовай улады ў нашай дзяржаве, якія фактычна дыскрымінуюцца, некаторыя мясцовыя Саветы да гэтага часу не абраны ў поўным саставе і пазбаўлены рычагоў уплыву на сітуацыю ў рэгіёнах.

З прамовай выступіў кіраўнік парламента Сямён Шарэцкі, які быў востра палемічны адносна апошніх дзеянняў і заяў кіраўніка выканаўчай улады Аляксандра Лукашэнкі. У прыватнасці, спікер парламента назваў хлуснёй словы аб тым, што быццам бы парламент збіраецца ўстанавіць нейкую дыктатуру. «Парламент выбіраецца народам, у яго ўваходзяць людзі розных перакананняў, тут заўсёды вядзецца палеміка, таму, каб прыпісваць такое парламенту, трэба быць альбо цемрашалам альбо хворым чалавекам. Дэпутаты ніколі не выступалі за нейкія асаблівыя правы сабе, але ў той жа час мы лічым абавязанымі абараняць тыя патрабаванні, якія прад'яўляюцца Канстытуцыяй, абараняць Закон. І мы гэта робім», — заявіў С. Шарэцкі. Ён падкрэсліў таксама, што парламент ніколі не выступаў супраць правядзення рэферэндуму. Аднак ён выказаў здзіўленне ў сувязі з заклікамі па тэлебачанні да людзей ісці галасаваць да 24 лістапада, прычым ва ўмовах, калі яшчэ не апублікаваны новыя варыянты праектаў змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі. «Людзей заклікаюць галасаваць за тое, што ім не вядома. Гавораць, што адзін калгас ужо закончыў галасаванне. Гэта значыць, што ўсе людзі з гэтага калгаса будуць выязджаць 24 лістапада?», — падкрэсліў С. Шарэцкі і зазначыў, што парламент выступае супраць такіх незаконных падыходаў, «супраць ілжы, якая льецца, як з цэбра, на парламент, на мясцовыя Саветы, на многіх прадстаўнікоў нашага народа».

Сямён Шарэцкі звярнуўся да прысутных з просьбай болей працаваць на месцах дзеля растлумачэння грамадзянам сітуацыі, бо парламент пазбаўлены магчымасці давесці сваю пазіцыю праз дзяржаўныя радыё і тэлебачанне. Гэта таксама парушэнне Канстытуцыі і законаў, падкрэсліў С. Шарэцкі. «І рэферэндум, і давыбары пройдуць, але ці выйдзем мы пры такім падыходзе з эканамічнага, палітычнага і маральнага тупіка?» — задаў яшчэ адно рытарычнае пытанне кіраўнік парламента. Акрамя таго, ён выказаў занепакоенасць той палітычнай ізаляцыяй у Еўропе, у якую трапляе наша краіна ў сувязі з такімі падзеямі ў нас.

Не менш вострым і нават сенсацыйным было выступленне старшыні Цэнтральнай камісіі па правядзенню выбараў і рэспубліканскіх рэферэндумаў Віктара Ганчара. Яго турбавала перш за ўсё сітуацыя з рэферэндумам і давыбарамі ў парламент і мясцовыя Саветы, якую ён ахарактарызаваў як «агульнанацыянальную ганьбу». Ён канстатаваў, што да 20 кастрычніка гэтыя мерапрыемствы праводзіліся не па закону, а паводле невядома кім выпрацаваных інструкцый і пад кіраўніцтвам не камісій, а штабоў. Пазней фармальна ніхто не асмельваўся ігнараваць закон, але толькі фармальна. Камісіі па рэферэндуму былі паспешліва створаны на працягу 7—10 дзён... В. Ганчар канстатаваў, што і Прэзідэнт, і Вярхоўны Савет праявілі поўную палітычную безадказнасць з пункту гледжання планавых мерапрыемстваў па рэферэндуму. Склалася такая сітуацыя, што парламент не вызначыў віды рэферэндуму па пяці пытаннях. Указ Прэзідэнта ад 7 лістапада, на думку В. Ганчара, складаўся касталомам, а не юрыстам. На яго думку, Прэзідэнт прымушае В. Ганчара ў гэтым указе не выконваць рашэнні КС, разумеючы, што гэта будзе крымінальным злачынствам. Віктар Ганчар заявіў, што ён не будзе выконваць гэты ўказ.

Сітуацыя з фінансаваннем рэферэндуму і давыбараў ужо не вытлумачваецца ніяк з пункту гледжання здаровага сэнсу. Шмат намаганняў ЦВК дабіцца фінансавання ад Мінфіна не далі вынікаў. Пачалося датэрміновае галасаванне, а каштарысы на рэферэндум не зацверджаны. Было шмат абяцанняў з боку намеснікаў кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі М. Сазонава, А. Абрамовіча ў адказ на просьбы кіраўнікоў камісій па рэферэндуму, але справа не зрушылася з месца. У такой сітуацыі ўвесь састаў Цэнтрвыбаркома папрасіўся на прыём да А. Лукашэнкі, каб непасрэдна яму патлумачыць сітуацыю, якая вядзе да зрыву рэферэндуму.

«Ужо сёння я вымушаны канстатаваць, што прынамсі я як старшыня ЦВК падагульняючага пратакола па рэферэндуму не падпішу. Для гэтага няма ніякіх падстаў», — заявіў В. Гачар. Да гэтага часу няма новага варыянта прэзідэнцкага праекта Канстытуцыі. В. Ганчар асабіста аб'ехаў выбарчыя ўчасткі ў трох абласцях, і вынес з гэтых паездак пачуццё ганьбы ад убачанага там, як ён сам заявіў.

«Аб якім галасаванні можа ісці размова, калі на ўчастках няма праектаў Канстытуцыі. Няўжо хто-небудзь думае, што ЦВК прызнае вынікі такога галасавання? Хто адкажа за гэтае агульнадзяржаўнае глупства? Я афіцыяльна заяўляю, што пакуль на ўчастках не з'явяцца абодва праекты Канстытуцыі ў той колькасці, якая вызначана ўказам Прэзідэнта (па 7 млн. экз. кожнага праекта выбаршчыкам і па 5 экз. на кожны ўчастак), галасаванне будзе лічыцца самадзейным. Датэрміновае галасаванне пачнецца толькі пасля выканання гэтай умовы», — заявіў В. Ганчар. Тое, што адбываецца вакол датэрміновага галасавання, кіраўнік Цэнтрвыбаркома назваў вар'яцтвам. Цяпер галасаваць могуць толькі тыя, каго не будзе на месцы 24 лістапада. А на некаторых вясковых участках прагаласавала ўжо да 80 чалавек...

Сваю занепакоенасць выказаў Віктар Ганчар і адносна давыбараў у парламент. Калі будуць сарваны выбары дэпутатаў, то аўтаматычна не адбудзецца і рэферэндум, бо камісіі ж адны — як для выбараў, так і для рэферэндуму.

Старшыня Цэнтрвыбаркома, улічваючы ўсё выказанае, звярнуўся да кіраўніцтва Вярхоўнага Савета з просьбай вярнуцца да пытання аб даце рэферэндуму. «Калі нехта думае, што можна правесці рэферэндум па сваіх правілах, па ўказах, якія супярэчаць рашэнню Канстытуцыйнага суда, з дапамогай штабоў, то гэта глыбокая памылка», — заявіў ён.

Выказаў перад прысутнымі пазіцыю і член Канстытуцыйнага суда Валерый Фадзееў. Ён негатыўна ацаніў «пераклічку гарадоў» па БТ з асуджэннем законнага рашэння Канстытуцыйнага суда. Ён падкрэсліў, што КС меў права разглядаць пастанову парламента ад 6 верасня, бо КС прызнаў яго нарматыўным актам. Абвінавачанні ў тым, што КС не меў права рэцэнзаваць праекты Канстытуцыі, В. Фадзееў парыраваў тым, што КС і не рабіў гэтага, а ацэньваў толькі пастанову ВС ад 6 верасня. Галоўная выснова ў заключэнні КС, на думку Фадзеева, у тым, што размова тут ідзе не аб звычайных пытаннях, а аб канстытуцыйным рэферэндуме, для якога патрэбны асаблівыя працэдуры, па прыкладу тых, якія існуюць для Вярхоўнага Савета пры змяненнях Канстытуцыі. Гэта патрэбна для таго, каб Канстытуцыя мела гарантыі стабільнасці, для таго, каб паставіць заслон паспешлівым змяненням і дапаўненням. Стабільнасць Канстытуцыі з'яўляецца асновай стабільнасці дзяржавы, — падкрэсліў суддзя КС В. Фадзееў. «Мы не можам забяспечыць свядомае волевыяўленне нашых грамадзян па такім важным пытанні, як Канстытуцыя. Грамадзяне разумеюць гэтую сітуацыю так: за каго галасаваць — за Прэзідэнта ці за Вярхоўны Савет?» Акрамя таго В. Фадзееў падкрэсліў, што КС меў на ўвазе і неабходнасць распрацоўкі пэўнай працэдуры падрыхтоўкі канстытуцыйных змяненняў, ніхто ж не ведае і аўтараў прадстаўленых цяпер праектаў...

Валерый Фадзееў падкрэсліў, што ўказ Прэзідэнта ад 5 лістапада, які ўстанаўлівае парадак прыняцця Канстытуцыі на рэферэндуме, толькі пацвярджае высновы Канстытуцыйнага суда, зробленыя ў яго заключэнні. Але, на думку Фадзеева, гэты парадак не можа быць устаноўлены ўказам, а толькі законам, ці нават канстытуцыйным законам. Указ Прэзідэнта ад 7 лістапада, у якім дадзена ацэнка рашэнням КС і ВС, В. Фадзееў негатыўна ацаніў. КС не пазбаўляў права грамадзян на прыняцце рашэнняў і ні да чаго не абавязваў, заявіў Фадзееў, і ў сувязі з гэтым яшчэ раз падкрэсліў, што заключэнне Канстытуцыйнага суда ўступіла ў сілу, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ЖЫХАРЫ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ РОБЯЦЬ СВОЙ ВЫБАР

**На 461 участак з 903, створаных у Магілёўскай вобласці, прыйшлі грамадзяне, каб датэрмінова выказаць сваё волевыяўленне на рэспубліканскім рэферэндуме.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў абласной камісіі па правядзенню плебісцыту, за першыя два дні атрымалі бюлетэні і выканалі свой грамадзянскі абавязак 3826 чалавек, якія па розных прычынах не змогуць прыняць удзел у галасаванні 24 лістапада. Найбольш актыўнымі былі жыхары Кіраўскага і Быхаўскага раёнаў, Кастрычніцкага раёна Магілёва, дзе ўжо адказалі на пытанні рэферэндуму па 400 і больш выбаршчыкаў.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## ВУЧНІ ПІШУЦЬ ПРА НАСТАЎНІКАЎ

**Беларускі саюз моладзі правёў сустрэчу з пераможцамі конкурсу «Журавушка. Настаўнік года вачыма падлетка».**

У ходзе конкурсу больш як 30 сачыненняў вучняў пра настаўнікаў былі прызнаны лепшымі, і частка з іх была апублікавана у газетах «Чырвоная змена», «Переходный возраст», у часопісе «Бярозка». А да Дня настаўніка былі аб'яўлены прызёры конкурсу. І вось на асенніх канікулах вучні-прызёры і настаўнікі, пра якіх яны пісалі, былі запрошаны для ўручэння ўзнагарод. Пераможцамі сталі дзеці ў асноўным з ньблізкіх да сталіцы раёнаў. Сустрэча не абмежавалася афіцыяльнай цырымоніяй, але працягнулася ў экскурсіях, наведванні цырка, музеяў, выставак.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

- На 1 кастрычніка **чыстыя замежныя актывы** Нацыянальнага банка склалі **106,1 мільёна USD**, павялічыўшыся з пачатку года на 1,2 мільёна долараў, або на 1,1 працэнта.
- На 1 кастрычніка ў сістэме Міністэрства аховы здароўя **функцыянуе 1.070 аптэк** (у тым ліку ў сельскай мясцовасці 551) дзяржаўнай уласнасці.
- У выніку падзення курса нацыянальнай валюты **скарацілася колькасць банкаў,** якія маюць статутны фонд звыш 2 мільёнаў ЭКЮ: на 1 красавіка такіх банкаў было 19, на 1 кастрычніка — 11.
- Паводле даных Дзяржаўнай службы занятасці, колькасць беспрацоўных у краіне ў кастрычніку **дасягнула 184,9 тысячы чалавек** і павялічылася ў параўнанні з пачаткам года на 41 працэнт.
- У рэспубліцы ў сярэднім **бясплатнае і льготнае** адпусканне лекаў склала 33 працэнты ўсяго продажу праз рознічную сетку (у рэгіёнах, якія пацярпелі ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы — 70 працэнтаў).
- За два гады ў Беларусі плануецца аднавіць **16 закінутых малых гідраэлектрастанцый:** зараз 7 такіх ГЭС з 22 адноўлены і ўжо функцыянуюць.
- **Залаты запас Расіі** знаходзіцца прыкладна на ўзроўні 300 тон.
- Паводле даных дэпартамента статыстыкі Літвы, у верасні **самая нізкая сярод краін Балтыі інфляцыя** была ў Літве — 0,3 працэнта, у Эстоніі яна дасягнула 0,6, у Латвіі — 0,7.

## ЛАТВІЯ СПЫНЯЕ ВЫДАЧУ ВІЗ У ПАГРАНІЧНЫХ КАНТРОЛЬНЫХ ПУНКТАХ

**Міністэрства замежных спраў Латвійскай Рэспублікі заявіла, што бліжэйшым часам будзе спынена выдача ўязных віз у гэтую краіну ў пагранічных кантрольных пунктах Айнажы, Элея, Грэнцтале, а таксама Ліепайскага, Вентспілскага і Рыжскага пасажырскіх портаў.**

Гэтую інфармацыю БелаПАН паведамілі ў прэс-службе Міністэрства замежных спраў Беларусі.

Латвійскае знешнепалітычнае ведамства лічыць, што неабходна прадоўжыць скарачэнне колькасці пунктаў выдачы віз непасрэдна на мяжы і стварыць у Латвіі сістэму выдачы ўязных віз, якая б забяспечвала якасны кантроль дакументаў і адпавядала практыцы дзяржаў Еўрасаюза.

Выдача віз, тым не менш, будзе прадоўжана ў пагранічных кантрольных пунктах аэрапорта «Рыга».

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

# Фанера ад «Пінскдрэва» — як касцюмы ад П'ера Кардэна

**Днямі ў Пінску, на базе калектыўнага аб'яднання «Пінскдрэў», прайшла навукова-тэхнічная нарада па вытворчасці фанеры ў Рэспубліцы Беларусь.**

На сустрэчы, акрамя айчынных фaнеравытворцаў, прысутнічалі замежныя госці: прадстаўнікі нямецкай фірмы «Бабкок», якая выпускае сушыльныя апараты для апрацоўкі фанеры. Швед Гары Вайдлінг увасабляў сусветна вядомую фірму «IKEA» — буйнейшага закупшчыка сыравіны і матэрыялаў для вырабу фанеры, а Іван Немец прадставіў швейцарскую фірму «Фішэр + Бюркле», якая таксама мае добрую рэпутацыю на фанерным рынку свету.

Удзельнікі нарады абмеркавалі надзённыя пытанні, якія хвалююць сёння вытворцаў такой неабходнай у дрэваапрацоўчай галіне прадукцыі, змаглі азнаёміцца на месцы з фанерным заводам пінчан.

Па словах віцэ-прэзідэнта канцэрна «Беллеспаперапром» Аляксандра Раманоўскага, які быў адным з арганізатараў сустрэчы, тое, што міжнародная нарада фанершчыкаў прайшла на калектыўным аб'яднанні «Пінскдрэў» — зусім не выпадкова. Менавіта тут выпускаецца найбольшая колькасць фанеры ў параўнанні з іншымі дрэваапрацоўчымі прадпрыемствамі рэспублікі.

А генеральны дырэктар КА «Пінскдрэў» Ларан Арыніч зазначыў, што фанера, якая выпускаецца на іхнім аб'яднанні, добра зарэкамендавала сябе не толькі ў краінах былога Саюза, але і ў многіх рэгіёнах далёкага замежжа. Якасць прадукцыі пінчан добра ведаюць амерыканцы, аўстрыйцы, немцы, французы, канадцы.

Як вядома, фанера з'яўляецца адным з кампанентаў мяккай мэблі. Таму не варта здзіўляцца, што пінскія дрэваапрацоўшчыкі ў галіне выпуску гэтага віду прадукцыі на вышыні. Аб якасці і арыгінальнасці мяккай мэблі ў адрас пінчан было шмат добрага сказана і на нядаўніх выставах у Мінску і Маскве, а таксама ў час наведвання прадпрыемства прэм'ер-міністрам РБ Міхаілам Чыгіром.

Застаецца толькі па-добраму пазайздросціць работнікам КА «Пінскдрэў», якіх не збілі з працоўнага рытму розныя канфліктныя сітуацыі і спрэчкі, што ўзнікалі паміж імі і сілавымі структурамі горада.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*ПОГЛЯД*

# ...СПАКОЙ НАМ ТОЛЬКІ СНІЦЦА

## У якім рэферэндуме будуць удзельнічаць беларускія грамадзяне 24 лістапада?

Да апошняга часу многія разважалі так: «Вось пройдзе рэферэндум, народ усё расставіць на свае месцы — і нарэшце скончыцца гэта ліхаманка, валтузня палітыкаў, якія замест таго, каб думаць пра народ, заняты высвятленнем адносінаў і перадзелам улады». Такога зыходу чакаюць, на яго спадзяюцца і тыя, хто задумаў рэферэндум — каб рукамі народа, эфектыўным і простым шляхам умацаваць і прадоўжыць сваё кіраванне дзяржавай; і тыя простыя грамадзяне, хто, не маючы ніякай улады, вымушаны быць сведкам гэтай барацьбы, а заадно і цярпець усе выдаткі, якімі нязменна суправаджаюцца падобныя разборкі «ў вярхах».

Але чым бліжэй 24 лістапада, тым менш надзеі на тое, што гэты дзень падвядзе рысу і стане пунктам адліку новай — спакойнай паласы ў жыцці Беларусі, якая б была адзначана згодай і паразуменнем у грамадстве.

Цяпер ужо відавочна, што, запаўняючы бюлетэні і апускаючы іх у скрынкі, грамадзяне Беларусі будуць мець на ўвазе не адзін і той жа рэферэндум.

Адна вялікая частка насельніцтва, якая цвёрда пераканана, што любое слова Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі — закон для дзяржавы, ні хвіліны не будзе сумнявацца, што галасуе па пытанню аб прэзідэнцкай Канстытуцыі, маючы права **рашаючага** голасу. Гэтая іх упэўненасць будзе грунтавацца, сярод іншага, на ўказе Прэзідэнта ад 7 лістапада г. г., паводле якога рэферэндум па Канстытуцыі аб'яўляецца **абавязковым**, а рашэнне Канстытуцыйнага суда ад 4 лістапада г. г. **адмяняецца**.

Другая значная частка народа, якая прывыкла сувымяраць свае ўчынкі найперш з законам, і толькі потым — з меркаваннем тых або іншых аўтарытэтаў, разгорне тэкст дзеючай Канстытуцыі і прачытае артыкул 129: «Заключэнні Канстытуцыйнага суда з'яўляюцца канчатковымі, абскарджанню і апратэставанню не падлягаюць». Зразумела, некаторым кіраўнікам гэтая норма не падабаецца, яны лічаць яе недасканалай і неапраўданай. Але для законапаслухмянага грамадзяніна, які прывык клапаціцца пра саё добрае імя і спакойную будучыню, гэтая акалічнасць не мае рашаючага значэння. Закон можа не падабацца, але гэта не значыць, што яго можна ігнараваць. Кіруючыся такімі меркаваннямі, гэтая частка народа прыйдзе 24 лістапада на выбарчыя ўчасткі з перакананнем, што ўдзельнічае ў кансультатыўным рэферэндуме па Канстытуцыі.

Цяпер уявім некалькі магчымых зыходаў рэферэндуму.

Дапусцім, за прэзідэнцкі праект Канстытуцыі прагаласавала больш як палова грамадзян, унесеных у выбарчыя спісы. Аляксандр Лукашэнка палічыць, што ў адпаведнасці з яго ўказамі ў гэтым выпадку новая Канстытуцыя ўступіла ў сілу: ён набыў новыя паўнамоцтвы, а пяцігадовы тэрмін яго праўлення пачаў адлік з нулявой адзнакі, дабавіўшыся да тых двух з паловай гадоў, што Аляксандр Лукашэнка ўжо кіруе краінай.

Няма сумнення, што яго палітычныя апаненты — і найперш Вярхоўны Савет — успрымуць гэтыя вынікі зусім па-іншаму. Хутчэй за ўсё, яны будуць настойваць на тым, каб у адпаведнасці з заканадаўствам ухваленыя на рэферэндуме прэзідэнцкія ініцыятывы прайшлі працэдуру абмеркавання і зацвярджэння ў парламенце. Такім чынам, распачнецца новы віток канфрантацыі. Зразумела, з Вярхоўным Саветам і Канстытуцыйным судом Прэзідэнт, натхнёны перамогай на рэферэндуме, справіцца можа проста. Але глеба для канфрантацыі нават пасля роспуску Вярхоўнага Савета не знікне.

Як будзе ўспрынята новая Канстытуцыя за мяжой? Захад з яго высокімі дэмакратычнымі стандартамі надзвычай унікліва ставіцца да захавання законнай працэдуры пры прыняцці такіх важных дакументаў, як Канстытуцыя. І існуе вялікая рызыка, што неасцярожныя, неабдуманыя крокі могуць каштаваць беларускаму кіраўніцтву таго, што і так не дужа шырока расчыненыя перад Беларуссю дзверы ў Еўропу ўвогуле з бразгатам зачыняцца. Асабліва гэта стане адчувацца пасля ліпеня 1999 года — часу, калі заканчваецца тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі, прадугледжаных Канстытуцыяй 1994 года. Калі новая Канстытуцыя Беларусі еўрапейскай супольнасцю прызнана не будзе, Аляксандр Лукашэнка апынецца ў даволі складаным становішчы.

Не менш пытанняў з'явіцца і ў тым выпадку, калі за прэзідэнцкі праект Канстытуцыі выкажацца меншасць беларускіх выбаршчыкаў. Тут ужо, расцаніўшы вынікі плебісцыту як недавер народа да палітыкі Прэзідэнта, у наступ рушыць Вярхоўны Савет. Аляксандру Лукашэнку ўспомняць усе яго ўказы, прызнаныя Канстытуцыйным судом незаконнымі. І вельмі верагодна, што паспрабуюць запусціць механізм імпічменту.

Энергічны беларускі Прэзідэнт, вядома, не будзе пасіўна назіраць за ўсім гэтым. Нават калі прэзідэнцкі праект Канстытуцыі не набярэ неабходнай колькасці галасоў, усё ж за яго, несумненна, выкажацца значная частка насельніцтва — магчыма, гэта будзе нават большасць тых, хто прыме ўдзел у галасаванні. Апелюючы да гэтай акалічнасці, Аляксандр Лукашэнка, зусім магчыма, будзе настойваць на тым, каб Вярхоўны Савет прыслухаўся да голасу народа і перагледзеў хаця б некаторыя палажэнні Канстытуцыі.

Ад зыходу галасавання 24 лістапада ў многім будзе залежаць і будучыня традыцыі рэферэндумаў у Беларусі. Калі лістападаўскі рэферэндум прынясе Аляксандру Лукашэнку чарговую перамогу — то не даводзіцца сумнявацца, што беларускі Прэзідэнт выканае адно са сваіх абяцанняў і будзе праводзіць падобныя плебісцыты штогод. Калі ж рэферэндум прынясе нечаканы для Прэзідэнта вынік, то традыцыя, хутчэй за ўсё, перарвецца, як справа не дужа надзейная і з высокім працэнтам рызыкі.

У любым выпадку, спадзявацца на тое, што дзень 24 лістапада расставіць усе кропкі над «і», на жаль, не выпадае. Штодня назіраючы за навязлівай палітычнай «перадрэферэндумнай» рэкламай, на якую патрачаны мільярды рублёў народных грошай, — канстатаваць гэты факт асабліва прыкра.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# «ДЗЕЦІ ДУМАЮЦЬ ПРА ДЗЯЦЕЙ»

Пад такой назвай 8—10 лістапада ў Мінску і Івянцы прайшло дзіцячае свята мастацтваў. Ідэя такога свята ўзнікла падчас дабрачынных гастроляў беларускіх артыстаў па раёнах, што пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС, прысвечаных дзесяцігоддзю гэтай трагедыі. Тады прафесіянальныя артысты заўважылі сярод дзетак нямала адораных музыкантаў і танцораў, іх таксама запрашалі на сцэну, і вось цяпер вырашана сабраць найлепшых з іх і арганізаваць сумесныя канцэрты. Арганізавалі гэтае свята мастацтваў Беларускі саюз моладзі, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Міністэрства культуры, Савет федэрацыі прафсаюзаў, Дзяржаўны камітэт па справах моладзі.

Спачатку самадзейныя і прафесіянальныя артысты выязджалі ў Івянец, дзе ў іх была асобная праграма, потым прыехалі ў Мінск і 9 лістапада сабраліся ў памяшканні цырка, куды былі запрошаны акрамя артыстаў таксама дзеці перасяленцаў з чарнобыльскай зоны, якія цяпер жывуць у Мінску. Падчас канцэртаў гледачы пазнаёміліся з народным ансамблем песні і танца «Рунь», ансамблем «Вяселле», Уладзімірам Станкевічам і яго поп-групай «Лімпапо», вандроўнымі музыкамі «Шарыкі», ансамблем «Гарэзлівыя агеньчыкі».

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# БРУШНЫ ТЫФ У ЧЭРВЕНІ: МНОСТВА ЗАХВАРЭЎШЫХ, ФАКТ САМАГУБСТВА, ПАРУШЭННІ Ў ГАНДЛІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

«Экстраннае паведамленне аб першым выпадку брушнога тыфу зроблена з раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (райЦГЭ) у абласны і рэспубліканскі цэнтры 22.10.96 г. Санітарцы, якая абслугоўвае 5-ы пост, 22.10.96 г. быў пастаўлены дыягназ «брушны тыф».

Паведамленне аб зноў выяўленых выпадках захворвання паступіла ў абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі ў 17.00 26.10.96 г. У гэты ж дзень у 18.30 у дом-інтэрнат выехала эпідбрыгада аблЦГЭ.

***З гутаркі з Галоўным дзяржаўным санітарным урачом Чэрвеньскага раёна Юрыем Вардамскім.***

**— Юрый Міхайлавіч, найперш, як вы можаце ахарактарызаваць сітуацыю з тыфам на сённяшні момант у доме-інтэрнаце?**

— Па стану на 6 кастрычніка ў інфекцыйным аддзяленні цэнтральнай раённай бальніцы знаходзіліся 52 чалавекі з дыягназам і падазрэннем на брушны тыф. У доме-інтэрнаце знаходзіцца 31 забяспечваемы з падазрэннем на брушны тыф (хворыя ізаляваны). Новых паступленняў (па стану на 8 лістапада. — **С. Р.**) не было.

**— Ці існуе пагроза для жыхароў горада і раёна?**

— Не, успышка лакалізавана, сітуацыя знаходзіцца пад кантролем. Вынас хваробы на горад выключаны. Людзі могуць смела набываць малако і малочныя прадукты ў дзяржгандлі — гармалзавод атрымаў прадпісанне аб узмоцненым рэжыме пастэрызацыі гэтых прадуктаў.

**— Якім чынам перадаецца хвароба і якія яе сімптомы?**

— Бытавым шляхам захварэць немагчыма, як немагчыма атрымаць тыф і ад жывёлы. Але мы не выключаем, што даяркі маглі даіць кароў і ўзбуджальнікі трапілі ў малако. Крэмавыя вырабы таксама найлепшае асяроддзе для ўзбуджальнікаў. Інкубацыйны перыяд складае ад 7 да 20 дзён. У чалавека павышаецца тэмпература, з'яўляюцца болі ў страўніку...

**— Але ў горадзе прадаюць торты, піражныя...**

— Распараджэнні наконт забароны гандлю імі былі прыняты 27 кастрычніка. Райспажыўсаюз павінен ведаць аб іх.

**— Якія меры прыняты да вінаватых і што робіцца дадаткова, каб не выпусціць хваробу ў горад?**

— Складзены пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні на дырэктара, старшага ўрача і санітарнага фельчара. У мэтах прафілактыкі ў інтэрнат накіраваны спецыяльныя медыкаменты. Устаноўлена медыцынскае назіранне за персаналам дома-інтэрната, а таксама за сем'ямі захварэўшага персаналу. Дадзены рэкамендацыі па санітарнай апрацоўцы прадпрыемстваў грамадскага харчавання, гандлю. Дарэчы, за выпуск і рэалізацыю крэмавых вырабаў на адказную асобу зараз можа быць наложаны штраф ад 500 тысяч да 2 мільёнаў рублёў. У самім жа доме-інтэрнаце ўведзены каранцін.

**— Сцвярджаюць, што тыф — хвароба брудных і галодных людзей. Тут праблем няма?**

— Калі ласка, можам пабачыць усё на свае вочы.

***З даведкі Чэрвеньскага і Рэспубліканскага цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі:***

«Дом-інтэрнат па праекту разлічаны на 300 месцаў. У цяперашні час у ім пражываюць 488 чалавек. Абслуговага персаналу — 200 чалавек, у т. л. 3 урачы і 28 медыцынскіх сясцёр.

Для ізалятара «хронікаў» выдзелены асобны сталовы посуд. Ежу прыносяць з харчблока ў ёмістасцях гэтых ізалятараў. За ізалятарам для «хронікаў» пастаянна замацаваны 4 санітаркі, якія працуюць без сумяшчэння ў асноўным корпусе. Ізалятар для хронікаў забяспечаны цэнтралізавана пітной вадой, сцёкавыя воды падаюцца ў агульную каналізацыйную сістэму дома-інтэрната».

Дом-інтэрнат размешчаны за горадам. «УАЗік» хутка ляціць па шашы, і я бачу тэрыторыю, абнесеную драўляным плотам. На прахадной невялікая паперка з надпісам «Каранцін». Па словах спадара Вардамскага, гэта азначае, што наведваць забяспечваемых забаронена. Ручкі на дзвярах перавязаны марляй са спецыяльным растворам (сцеражонага Бог сцеражэ). Як паведаміў далей санітарны ўрач, тут зараз працуюць дэзінфекцыяністы з некалькіх гарадоў краіны. Падчас наведвання ў галоўным корпусе забяспечваемыя прымалі ежу. Накіроўваемся далей. За 100—120 метраў у цагляным аднапавярховым будынку (які акрамя агульнага плоту па перыметру тэрыторыі ўсяго дома-інтэрната абнесены яшчэ адным, асобным), размешчаны ізалятар. Двое веснічак адны за другімі — і мы ўваходзім у ізалятар для пражывання хранічных носьбітаў узбуджальнікаў брушнога тыфу з ліку псіханеўралагічных хворых. Усяго іх 16 чалавек, яны таксама ядуць. У гэтых людзей незайздросны лёс, яны ўсё жыццё вымушаны правесці менавіта такім чынам, у ізаляцыі, паколькі, нягледзячы на лячэнне тыфу, пэўны працэнт хворых заўсёды будзе носьбітам гэтай хваробы. Да таго ж яны — псіханеўралагічныя хворыя. Скажу шчыра: знаходзіцца там доўга і разглядаць усё ў падрабязнасцях жадання не ўзнікае. Так, асобныя туалеты, свая пральная машына, ядуць нядрэнна... На развітанне ўрач раіць памыць добра рукі, бо пры тыфе гігіена павінна быць на першым месцы.

На жаль, гэтая гісторыя з тыфам мае і іншы працяг. Як паведаміў следчы пракуратуры Чэрвеньскага раёна Аляксандр Місюкевіч, 31 кастрычніка медсястра, якая знаходзілася ў інфекцыйным аддзяленні райбальніцы ў ліку падазраваемых, раніцай пакінула яго. 2 лістапада яна была знойдзена за горадам, але... Жанчына звяла рахункі з жыццём праз пятлю...

Высвятленнем усіх абставінаў гэтага здарэння зараз займаецца пракуратура, таму, трэба спадзявацца, з цягам часу і яны стануць вядомы.

Ідучы з цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, зазірнуў у кулінарыю грамадскага харчавання, праўда, на гэты раз ужо з супрацоўнікамі міліцыі. Не мае сэнсу пераказваць усё тое, што запісаў дыктафон, але ў продажы былі свежыя тарты, у цэху на стале ляжалі конусы з крэмам, а прысутныя прадаўцы і кандытары, як заўсёды, аказаліся «апошнімі». Паперы з дазволам (як, зрэшты, і забаронай) на гандаль такімі вырабамі прад'явіць нам ніхто не змог, але пра тыф і распараджэнне санэпідстанцыі работнікі ведалі. Загад выраблядь і прадаваць рэшткі прадукцыі з крэмам (прычым на ўвесь раён, па заяўках магазінаў) даваўся апошнім часам вусна — праз брыгадзіраў. Што на гэта можна сказаць? Няўжо сам прадавец ці кандытар возьме на сябе адказнасць выраблядь і прадаваць тарты, нават калі ад выпрацоўкі залежыць яго заробак?! Зазначу толькі, што раніцай наступнага дня тарты з прылаўкаў зніклі...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

***P. S.*** **Падрыхтаваўшы матэрыял, раніцай 11 лістапада я яшчэ раз патэлефанаваў Галоўнаму дзяржаўнаму санітарнаму ўрачу Чэрвеньскага раёна Юрыю Вардамскаму. Па словах Юрыя Міхайлавіча, па стану на 9 гадзін раніцы гэтага дня становішча з брушным тыфам было наступнае: лёгкіх падазраваемых з дома-інтэрната, якія знаходзіліся ў інфекцыйным аддзяленні раённай бальніцы, вярнулі назад, а з дома-інтэрната ў бальніцу былі пераведзены 4 чалавекі. Паводле апошніх звестак, зараз у інфекцыйным аддзяленні бальніцы знаходзяцца 39 чалавек — хворых з дакладным дыягназам і падазраваемых. У доме-інтэрнаце на той жа момант зафіксаваны 54 чалавекі (таксама хворых і падазраваемых), прычым з тэмпературай адзначаны толькі двое з іх, што, па меркаванню спадара Вардамскага, дае падставы гаварыць аб стабілізацыі абстаноўкі.**

# УКАЗ
## Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
№ 454

## АБ АБ'ЯДНАННІ СМАРГОНСКАГА РАЁНА І ГОРАДА СМАРГОНІ Ў АДНУ АДМІНІСТРАЦЫЙНУЮ АДЗІНКУ

На падставе часткі трэцяй артыкула 2 і артыкула 4 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь», а таксама ўлічваючы рашэнні смаргонскіх раённага і гарадскога Саветаў дэпутатаў і прадстаўленне Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, **пастанаўляю:**

1. Аб'яднаць аднайменныя адміністрацыйныя адзінкі Смаргонскі раён і горад Смаргонь, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр, у адну адміністрацыйную адзінку — Смаргонскі раён з адміністрацыйным цэнтрам горад Смаргонь.

2. У сувязі з аб'яднаннем у адпаведнасці з гэтым Указам аднайменных адміністрацыйных адзінак ліквідаваць Смаргонскі гарадскі Савет дэпутатаў, Смаргонскі гарадскі выканаўчы камітэт і іх органы.

Гродзенскаму аблвыканкому ў двухтыднёвы тэрмін утварыць ліквідацыйную камісію для вырашэння ўсіх пытанняў, звязаных з аб'яднаннем Смаргонскага раёна і горада Смаргоні, маючы на ўвазе перадачу іх маёмасці і працаўладкаванне работнікаў ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

3. Устанавіць, што за дэпутатамі Смаргонскага гарадскога Савета дэпутатаў на ўвесь тэрмін іх паўнамоцтваў захоўваецца статус дэпутата мясцовага Савета. Дэпутаты былога гарадскога Савета дэпутатаў удзельнічаюць у рабоце раённага Савета дэпутатаў і яго органаў з правам рашаючага голасу.

Іншыя пытанні аб'яднання Смаргонскага раёна і горада Смаргоні ажыццяўляюцца на ўмовах, прадугледжаных Палажэннем аб парадку вырашэння пытанняў, звязаных з аб'яднаннем аднайменных адміністрацыйных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр, зацверджаным Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 кастрычніка 1995 г. № 433 (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 30, арт.728).

4. Смаргонскаму райвыканкому па ўзгадненню з Гродзенскім аблвыканкомам распрацаваць схему кіравання раённай і гарадской гаспадаркай, прадугледзеўшы пры неабходнасці стварэнне адпаведных падраздзяленняў у структуры райвыканкома.

5. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

5 лістапада 1996 г., г. Мінск.

---

## Імем Рэспублікі Беларусь
# ЗАКЛЮЧЭННЕ
## Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь
### Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 лістапада 1995 г. № 464 «Аб стварэнні кадравага рэестра Кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь»

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., намесніка старшыні суда Фадзеева В. А., суддзяў Васілевіча Г. А., Вашкевіча А. Е., Кенік К. І., Пастухова М. І., Падгрушы В. В., Серады Н. М., Цішкевіча С. І., Філіпчык Р. І., Чудакова М. Ф.

з удзелам:

прадстаўнікоў Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які ўнёс прапанову аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўнага акта: Грыба М. І. — члена Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах, Свіціна В. В. — галоўнага спецыяліста экспертна-прававога ўпраўлення Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

прадстаўніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які выдаў указ, Лубоўскага В. Е. — намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення па рабоце з органамі заканадаўчай і судовай улады Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

эксперта Леўшунова С. Е. — галоўнага эксперта-каардынатара навуковага напрамку Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад», кандыдата юрыдычных навук;

спецыяліста Мялешкі Х. Т. — дацэнта кафедры грамадзянскага працэсу і працоўнага права Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кандыдата юрыдычных навук

разгледзеў у адкрытым судовым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 лістапада 1995 г. № 464 «Аб стварэнні кадравага рэестра Кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь».

У судовым пасяджэнні прыняў удзел Сашчэка І. Ф. — намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.

Вытворчасць па справе ўзбуджана па прапанове Старшыні Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання М. І. Грыба, якая пацверджана Старшынёй Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання С. Г. Шарэцкім.

Праверцы падлягаў Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 лістапада 1995 г. № 464 «Аб стварэнні кадравага рэестра Кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 32, арт. 783).

Згодна з пунктам 1 названага ўказа створаны кадравы рэестр Кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

Пунктам 2 указа зацверджаны пералікі 1—3 службовых кіруючых работнікаў цэнтральных і іншых дзяржаўных органаў, якія ўключаюцца ў кадравы рэестр Кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

Пунктам 3 указа даручана Адміністрацыі Прэзідэнта ў двухмесячны тэрмін:

сумесна з Кабінетам Міністраў і іншымі зацікаўленымі распрацаваць праект палажэння аб парадку фарміравання, захавання і выкарыстання даных кадравага рэестра Кіраўніка дзяржавы, а таксама аб парадку вядзення асабовых спраў работнікаў дзяржаўных органаў, пасады якіх уключаны ва ўказаны рэестр, і прадставіць яго Прэзідэнту;

па ўзгадненню з Прэзідыумам Вярхоўнага Савета вызначыць умовы фарміравання, захавання і выкарыстання даных кадравага рэестра Кіраўніка дзяржавы ў частцы пасад кіруючых работнікаў дзяржаўных органаў, якія выбіраюцца на пасады Вярхоўным Саветам або назначаюцца падсправаздачнымі яму органамі, і падрыхтаваць праект рашэння па гэтым пытанні;

сумесна з Кабінетам Міністраў і Акадэміяй кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь прадставіць Прэзідэнту прапановы аб парадку павышэння кваліфікацыі, фарміравання рэзерву і атэстацыі кіруючых работнікаў, пасады якіх уключаны ў пералік 2, зацверджаны ўказам.

Гэтым жа пунктам указа даручалася Адміністрацыі Прэзідэнта ў месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць узоры службовых пасведчанняў для кіруючых работнікаў цэнтральных органаў кіравання і органаў, падсправаздачных Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, пасады якіх уключаны ў пералікі 1 і 2, зацверджаныя ўказам, а таксама парадак выдачы і ўліку гэтых пасведчанняў.

Прэзідыуму Вярхоўнага Савета рэкамендавана ўнесці прапановы аб парадку павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў дзяржаўных органаў, пасады якіх уключаны ў пералік 3, зацверджаны ўказам.

Пунктам 4 указа ўстаноўлена, што накіраванне ў службовыя замежныя камандзіроўкі кіраўнікоў, пасады якіх уключаны ў пералікі 1 і 2, зацверджаныя ўказам, незалежна ад крыніц фінансавання гэтых камандзіровак, ажыццяўляецца з пісьмовай згоды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а кіруючых работнікаў, пасады якіх уключаны ў пералік 3, зацверджаны гэтым указам, — з пісьмовай згоды іх кіраўнікоў.

У пункце 5 указа ўтрымліваецца даручэнне Кабінету Міністраў, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому аб стварэнні аналагічных кадравых рэестраў.

У выкананне Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 лістапада 1995 г. № 464 і ў развіццё асобных яго палажэнняў Прэзідэнтам, Кабінетам Міністраў і іншымі дзяржаўнымі органамі былі прыняты адпаведныя акты.

У прапанове ў Канстытуцыйны суд Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь указаў, што стварэнне Прэзідэнтам кадравага рэестра пасад кіруючых работнікаў дзяржаўных органаў мае на мэце ўстанаўленне прэзідэнцкага кантролю за кадравай палітыкай не толькі ў падначаленых яму органах выканаўчай улады, але і ў органах заканадаўчай і судовай улады, што ў сваю чаргу прывядзе да поўнай падкантрольнасці заканадаўчых і судовых органаў, а таксама органаў дзяржаўнага кантролю і нагляду Прэзідэнту як кіраўніку выканаўчай улады.

На думку Старшыні Вярхоўнага Савета, пазбаўленне вышэйшых дзяржаўных органаў магчымасці самастойна вырашаць кадравыя пытанні, а таксама пытанні, звязаныя з выездам кіраўнікоў гэтых органаў за мяжу, парушае баланс розных галін улады і прывядзе да празмернага ўзвышэння выканаўчай улады, поўнага падпарадкавання ёй усіх іншых дзяржаўных органаў.

Выслухаўшы прадстаўнікоў бакоў, эксперта, спецыяліста, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы палажэнні Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыйны суд прыйшоў да наступных высноў.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь з'яўляецца кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады. Як кіраўнік выканаўчай улады ён кіруе сістэмай яе органаў, забяспечваючы правядзенне эфектыўнай кадравай палітыкі, у тым ліку шляхам стварэння адзінай сістэмы ўліку, падбору, падрыхтоўкі і расстаноўкі кіруючых кадраў. У адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі Прэзідэнт мае права назначаць і вызваляць ад пасады членаў Кабінета Міністраў, кіруючых работнікаў Адміністрацыі Прэзідэнта і іншых службовых асоб падведамных яму органаў выканаўчай улады.

У кампетэнцыю Прэзідэнта як Кіраўніка дзяржавы ўваходзіць назначэнне судоў Рэспублікі Беларусь, акрамя тых, выбранне якіх аднесена да кампетэнцыі Вярхоўнага Савета, а таксама прадстаўленне Вярхоўнаму Савету кандыдатур для выбрання на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суда, старшыні Вярхоўнага суда, старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда, старшыні праўлення Нацыянальнага банка.

Канстытуцыйны суд лічыць, што стварэнне кадравага рэестра і ўключэнне ў яго пасад кіруючых работнікаў падведамных Прэзідэнту органаў выканаўчай улады, а таксама пасад работнікаў іншых дзяржаўных органаў, назначэнне (выбранне) якіх на пасады ажыццяўляецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь або па яго прадстаўленню, не супярэчыць Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь. Устанавіўшы парадак, пры якім накіраванне ў службовыя замежныя камандзіроўкі кіраўнікоў падведамных Прэзідэнту органаў выканаўчай улады ажыццяўляецца з яго пісьмовай згоды, Прэзідэнт таксама дзейнічаў у межах сваёй кампетэнцыі.

Разам з тым асобныя палажэнні Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 лістапада 1995 г. № 464 «Аб стварэнні кадравага рэестра Кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь» не адпавядаюць Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь па наступных падставах.

Згодна з артыкулам 6 Канстытуцыі, дзяржава грунтуецца на прынцыпе падзелу ўладаў — заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя: яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго.

У межах, якія вызначаюцца Канстытуцыяй, Законамі «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», «Аб судаўладкаванні і статусе судоў у Рэспубліцы Беларусь», «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь», іншымі заканадаўчымі актамі, розныя галіны дзяржаўнай улады самастойна вырашаюць пытанні ўліку, падбору, падрыхтоўкі і расстаноўкі кадраў.

Важнай гарантыяй незалежнасці дзяржаўных органаў з'яўляецца прадастаўленае ім права самастойна вырашаць пытанні расходавання выдзеленых на іх утрыманне сродкаў дзяржаўнага бюджэту, у тым ліку звязаныя з выездам работнікаў гэтых органаў у замежныя камандзіроўкі.

З улікам выкладзенага Канстытуцыйны суд лічыць, што пункт 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 лістапада 1995 г. № 464 «Аб стварэнні кадравага рэестра Кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь» у частцы ўключэння ў пералікі 1 і 3, зацверджаныя гэтым указам, пасад кіруючых работнікаў дзяржаўных органаў, назначэнне (выбранне) якіх на пасады ажыццяўляецца без удзелу Прэзідэнта (Старшыня Вярхоўнага Савета і яго намеснікі, Генеральны пракурор, старшыня Кантрольнай палаты, намеснік старшыні і члены Канстытуцыйнага суда і інш.), а таксама пункт 4 названага Указа ў частцы ўзгаднення з Прэзідэнтам накіравання ў службовыя замежныя камандзіроўкі кіраўнікоў дзяржаўных органаў, непадведамных Прэзідэнту, не адпавядаюць абвешчанаму Канстытуцыяй прынцыпу падзелу ўладаў, парушаюць іх самастойнасць, з'яўляюцца ўмяшаннем выканаўчай улады ў дзейнасць іншых галін дзяржаўнай улады.

Суд таксама звяртае ўвагу на некарэктнасць назвы кадравага рэестра як рэестра Кіраўніка дзяржавы, паколькі ў адпаведнасці з артыкулам 95 Канстытуцыі выкананне абавязкаў Кіраўніка дзяржавы з'яўляецца толькі адной з функцый Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, артыкуламі 5, 6, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд

*вырашыў:*

1. Прызнаць неадпаведнымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункт 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 лістапада 1995 г. № 464 у частцы ўключэння ў кадравы рэестр Кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь пасад кіруючых работнікаў дзяржаўных органаў, назначэнне (выбранне) якіх на пасады ажыццяўляецца без удзелу Прэзідэнта, а таксама пункт 4 гэтага ўказа ў частцы ўзгаднення з Прэзідэнтам накіравання ў службовыя замежныя камандзіроўкі кіраўнікоў дзяржаўных органаў, непадведамных Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь.

Лічыць гэтыя нормы страціўшымі сілу з дня прыняцця гэтага Заключэння.

2. Прапанаваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь і іншым дзяржаўным органам прывесці свае рашэнні ў адпаведнасць з гэтым Заключэннем.

3. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

4. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня**
**Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь**
**В. Г. ЦІХІНЯ**

10 кастрычніка 1996 г., г. Мінск
№ 3-41/96.



# Асобнае меркаванне
### суддзі Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь М. І. Пастухова па справе «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 лістапада 1995 г. № 464 «Аб стварэнні кадравага рэестра Кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь»

Мяркую, што правяраемы ўказ Прэзідэнта не адпавядае Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь у цэлым.

Па-першае, Канстытуцыя не прадугледжвае такога органа дзяржаўнай улады, як Кіраўнік дзяржавы. У ёй замацоўваецца пасада прэзідэнта як кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады (артыкул 95). Пры гэтым не робіцца размежавання функцый Прэзідэнта як кіраўніка дзяржавы і як кіраўніка выканаўчай улады. Назва ўказа можа сведчыць аб устанаўленні наддзяржаўных паўнамоцтваў Прэзідэнта, які з кіраўніка адной галіны ўлады становіцца кіраўніком дзяржавы.

Па-другое, ні Канстытуцыя, ні законы Рэспублікі Беларусь (у тым ліку Закон «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь») не даюць Прэзідэнту падобнага права. Стварэнне кадравага рэестра Кіраўніка дзяржавы ёсць не што іншае, як устанаўленне прэзідэнцкага кантролю за кадравай палітыкай ва ўсіх структурах дзяржаўнай улады.

Уключэнне ў названы рэестр пасад Старшыні і намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета, старшыні і суддзяў Канстытуцыйнага суда, Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў, Генеральнага пракурора, старшыні праўлення Нацыянальнага банка, старшыні Кантрольнай палаты, старшынь абласных і Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў, пракурораў абласцей і горада Мінска азначае ўварванне Прэзідэнта ў сферу дзейнасці іншых галін улады, а значыць сведчыць аб парушэнні артыкула 6 Канстытуцыі, які замацоўвае прынцып падзелу ўладаў — заканадаўчай, выканаўчай і судовай.

Па дзеючаму заканадаўству прапановы па ажыццяўленню дзяржаўнай кадравай палітыкі, накіраванай на стварэнне неабходнага рэзерву высокапрафесіянальных кіруючых работнікаў, распрацоўвае Кабінет Міністраў (артыкул 12 Закона «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь»). Прэзідэнт жа кіруе сістэмай органаў выканаўчай улады і забяспечвае іх узаемадзеянне з іншымі галінамі дзяржаўнай улады (артыкул 1 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь»). Тым самым сфера паўнамоцтваў Прэзідэнта ў галіне кадравай палітыкі абмяжоўваецца толькі органамі выканаўчай улады.

Па-трэцяе, стварэнне ўказанага кадравага рэестра парушае шэраг канстытуцыйных нормаў, якія замацоўваюць правы і свабоды грамадзян, у прыватнасці артыкулы 39 і 58 Канстытуцыі. Згодна з артыкулам 39, грамадзяне Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці са сваімі здольнасцямі, прафесіянальнай падрыхтоўкай маюць права роўнага доступу да любых пасад у дзяржаўных органах, а кадравым рэестрам гэтага права многія з іх пазбаўляюцца. Артыкул 58 устанаўлівае, што ніхто не можа быць прымушаны да адмовы да сваіх правоў. Між тым, нормы правяраемага ўказа пазбаўляюць дэпутатаў Вярхоўнага Савета і кіраўнікоў іншых органаў дзяржаўнай улады права самастойна вырашаць кадравыя пытанні.

**Суддзя Канстытуцыйнага**
**суда Рэспублікі Беларусь**
**М. І. ПАСТУХОЎ**

**Палітычная «верхатура» шчыльна акупіравана мужчынамі. Таму зразумела пільная ўвага да жанчын, якія бяруць удзел у вызначэнні перспектыў развіцця нашай краіны.**

**Стэрэатып дзелавой жанчыны ўстойлівы і нязменны: строгага крою касцюм, мінімум касметыкі і ўпрыгажэнняў, максімум дзелавітасці на твары. Але сённяшняя госця «Звязды», саветнік-кансультант Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта РБ, доктар філасофскіх навук, прафесар Святлана ВІНАКУРАВА, зусім не ўпісваецца ў традыцыйны вобраз дзелавой жанчыны. Наадварот, смела руйнуе яго: апранаецца элегантна, не грэбуе макіяжам, пацеркамі-пярсцёнкамі-бранзалетамі, усмешлівая і абаяльная. Толькі моцная, упэўненая ў сабе жанчына, якой не патрабуюцца ніякія знешнія «падпоркі», можа паводзіць сябе так.**

**Большая частка жыцця Святланы Пятроўны звязана з самай, па яе словах, «займальнай навукай» — філасофіяй. Доктарскую дысертацыю абараніла ў 40 гадоў, па існуючых «прафесарскіх канонах» — узрост зусім юны.**

**Можна толькі здагадвацца, колькі мэтанакіраванасці, настойлівасці, упартасці ў характары гэтай знешне мяккай жанчыны.**

**Напэўна, так яно і ёсць?..**



# З ВОБРАЗАМ «ЖАЛЕЗНАЙ ЛЭДЗІ» ДОКТАР ФІЛАСОФІІ НЕ МАЕ НІЧОГА АГУЛЬНАГА. ХАЦЯ І ЗАЙМАЕЦЦА МУЖЧЫНСКАЙ СПРАВАЙ...

**— Святлана Пятроўна, тып «жалезнай лэдзі» — не для вас?**

— Мяркую, «жалезная лэдзі» — вобраз зборны. Калі прымяраць яго на сябе... Заўсёды прыкладаю паслядоўныя намаганні, каб праца, якой я займаюся, мела канкрэтны вынік: у навуцы, у педагогіцы, у жыцці. І зараз, на адказнай пасадзе ў Адміністрацыі Прэзідэнта, не адступаю ад гэтага прынцыпу. Тут, магчыма, і праяўляецца пэўная «жалезнасць». Але, заўважце, — у сутнасці, а не ў форме: не ў жаданні кімсьці кіраваць, даваць наганяй і г. д. Апошняе залежыць ад узроўню элементарнай культуры чалавека. І яшчэ: вельмі важна ўмець паглядзець на сябе староннім вокам. Чалавек, які «жалезна» прытрымліваецца пэўных пазіцый і ніколі з іх не саступае, мабыць, смешна выглядае збоку і нагадвае вялікага слана, які спрабуе стаць на галаву.

**— Мяне заўсёды цікавіла, як чалавек прыходзіць да думкі стаць прафесіянальным філосафам?**

— Я скончыла беларускамоўную вясковую школу. Дома ў нас было шмат кніг, гучала музыка, бацькі ігралі на музычных інструментах і навучылі гэтаму сваіх дзяцей. Гуманітарная адукацыя цанілася вельмі высока: бацька — настаўнік гісторыі (ужо 12 гадоў яго няма з намі), маці — медык. Яшчэ ў школе была прачытана большая частка класічнай літаратуры, усё, што было ў мясцовай бібліятэцы па антычнасці, працы Маркса, Энгельса, Леніна. Вырашыла, што буду філосафам, неяк інтуітыўна: не ведала, што гэта за спецыяльнасць і кім буду працаваць, калі атрымаю яе... Марыла ехаць вучыцца ў Маскву, але гэта вельмі далёка, ды і грошай у бацькоў не было, каб мяне туды накіраваць. У 16 гадоў, упершыню ў жыцці прыехала з бацькам у Мінск, але здаць дакументы на філасофскае аддзяленне БДУ бацька не дазволіў: у аб'явах пісалася, што для паступлення неабходна мець стаж 2 гады, а для выпускнікоў школ было пакінута толькі 5 месцаў. «У цябе залаты медаль, не паступіш — сораму на ўвесь раён будзе!» — сказаў бацька. У наступны раз прыехала ўжо без яго, здала дакументы, нават не пацікавіўшыся конкурсам. Паступіла. Скончыла універсітэт, атрымала дыплом з адзнакай і адразу пайшла ў аспірантуру Акадэміі навук...

**— Вы параўнальна рана абаранілі доктарскую дысертацыю...**

— Я рана абараніла кандыдацкую, а да доктарскай шлях быў даволі доўгі — 14 гадоў. Гэта цяпер стала модна за 2-3 гады — з кандыдатаў у дактары, а потым і ў акадэмікі, асабліва ў грамадскія акадэміі (у мяне ёсць знаёмы студэнт, ён пакуль не мае вышэйшай адукацыі, але ў яго ёсць дакумент, што ён — член-карэспандэнт нейкай міжнароднай акадэміі!). Да доктарскай я прыйшла з пэўным навуковым багажом: падрыхтавала дзве манаграфіі, каля сотні артыкулаў.

**— Якой тэме прысвечаны вашы навуковыя распрацоўкі?**

— Асоба і мараль. Маральнае адчуванне чалавека ў свеце.

**— Як вы трапілі на працу ў Адміністрацыю Прэзідэнта?**

— Я працавала загадчыкам кафедры ў Акадэміі аграрных навук РБ, паралельна чытала лекцыі ў іншых ВНУ. У Адміністрацыю мяне запрасілі. Вырашыла паспрабаваць сябе на пасадзе саветніка-кансультанта па пытаннях сацыяльна-палітычнай сферы. Працую тут другі год.

**— Вы можаце адступіцца ад прынцыпаў?**

— Ёсць прынцыповыя маральныя ўстаноўкі, ад якіх я імкнуся не адыходзіць ні пры якіх абставінах. Магчыма, гэта звязана і з тым, што ў навуцы я займаюся мараллю.

**— Як вы дзейнічаеце, калі вам рэкамендуюць ці раяць рабіць тое, з чым вы не згодны?**

— Пакуль не было выпадку, каб мая пазіцыя разыходзілася з пазіцыяй чалавека, які дае мне пэўнае даручэнне. Былі выпадкі, калі я настойліва выказвала сваё меркаванне, і толькі «з трэцяга заходу» мяне разумелі. Але сам факт, што мяне ўсё ж выслухоўвалі і, нарэшце, прыслухоўваліся, — сведчыць, што тут створана нармальная абстаноўка, дэмакратычная і творчая. Адчуваю сябе амаль як у час працы ў Акадэміі навук: у Адміністрацыі восем (калі не памыляюся) дактароў, шмат кандыдатаў навук. З аднаго боку — добрае інтэлектуальнае асяроддзе, з другога — вопытныя чыноўнікі, якія дапамагаюць нам асвоіць «азы» кабінетнай работы, вучаць працаваць з дакументацыяй. Інтэлект плюс бюракратыя — нядрэннае спалучэнне для кіраўніцкай структуры.

**— Вы працягваеце чытаць лекцыі?**

— У мяне ёсць прафесія, з якой я пайшла на дзяржслужбу, і ёсць магчымасці (юрыдычныя і маральныя) падтрымліваць прафесіянальную форму. Я пакінула за сабой кафедру, вяду аспірантаў, чытаю лекцыі па гісторыі філасофіі ў Беларускай акадэміі мастацтваў і невялікі спецкурс па этыцы дзелавых зносінаў у адной з недзяржаўных ВНУ.

Выкладчыцкая дзейнасць прыпадае, праўда, на вячэрнія гадзіны (пасля асноўнай працы) і суботнія дні.

**— Святлана Пятроўна, мы з вамі гутарым па-беларуску — не ўзнікае ніякіх праблем. Аднак узгадаем нядаўнюю падзею, Усебеларускі народны сход: вам не крыўдна, што на гэтым высокім форуме прагучаў толькі адзін выступ на роднай мове — і то прадстаўніка беларускай дыяспары з Алма-Аты?**

— Сапраўды, мова, на жаль, не прагучала на гэтым прадстаўнічым сходзе. Прычын, відаць, шмат.

**— Але, напэўна, ні адна з гэтых прычын не сведчыць, што людзі не хочуць гаварыць па-беларуску: ужо пасля першых прывітальных слоў на роднай мове зала заапладзіравала. Усё-такі настальгія па беларускаму слову на сходзе адчувалася.**

— Не толькі настальгія... Увогуле да моўнага пытання людзі сталі адносіцца больш спакойна. Нядаўняя істэрыя, калі ўстановы выдавалі загады гаварыць на мове, прайшла: зараз, больш значная частка людзей на мове гаворыць, піша, вучыцца. У праекце Канстытуцыі РБ са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаваным Прэзідэнтам, адзначаецца: беларуская мова мае статус дзяржаўнай, а руская — роўны з ёй. На Усебеларускім сходзе прагучалі прапановы запісаць канкрэтна, а не абцякальна: дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца руская і беларуская. Відаць, гэта больш правільна.

**— Прабачце, але ці не праглыне руская мова беларускую? Ці не атрымаецца так, што на роднай мове будуць гаварыць толькі прадстаўнікі беларускай дыяспары з блізкага і далёкага замежжа?**

— Беларуская мова на Беларусі не знікне ніколі! Я вучылася акурат у той час, калі, як цяпер гавораць, нашу родную мову вельмі прыціскалі. Але дзе ж тая праўда, калі, здаючы ўступныя экзамены па-беларуску, я паступіла на элітарны факультэт? І ніхто не сказаў, што я з вёскі, не папракнуў, што размаўляю па-беларуску! Наадварот, гэта, можа, дало мне лепшы шанц пры паступленні.

Крык наконт таго, што беларуская мова гіне, — заўчасны. Некаторыя лямантуюць: «Будзе мова — будзе і хлеб». Мусіць, не, будзе хлеб — будзе і мова.

**— На Усебеларускім сходзе адзначалася, што вельмі мала жанчын задзейнічана ва ўладных структурах. Прагучала нават думка пра тое, што варта ўстанавіць пэўную жаночую квоту. Хачу задаць, магчыма, парадаксальнае пытанне: няўжо жанчына не можа на роўных спаборнічаць з мужчынам? Ці трэба рабіць наш «пол» нашым «паталком»?**

— У часы, якія называюць застойнымі, фарміраванне ўсіх сацыяльных эліт ішло «зверху»: месцы ў кампартыю былі «жаночыя» і «мужчынскія», пасады — таксама. Сітуацыя ў грамадстве рэзка памянялася, уся сістэма вылучэння кадраў на кіраўніцкі ўзровень парушылася, і перш за ўсё гэта адбілася на становішчы жанчыны.

Прынамсі, «асцярожныя» адносіны да жанчыны ў плане працы былі заўсёды. Памятаю, калі прыйшла працаваць у ВНУ, мне адкрыта сказалі: нам патрэбен мужчына — каб было каго пасылаць са студэнтамі на бульбу. І я падумала: да чаго ж мы дойдзем, калі гэты крытэрый зробім галоўным для выкладчыка? У грамадстве, якое развіваецца па нармальных законах, не чалавек шукае працу, а праца шукае чалавека.

Лічу, што кадравая палітыка (у тым ліку і ў дачыненні да жанчын) павінна выпрацоўвацца і вызначацца на дзяржаўным узроўні. Тады жанчыне не трэба будзе даказваць, што яна такая ж разумная, як і мужчына. А ствараць жаночыя партыі... Гэта ад нейкай роспачы. Не разумею, навошта? Каб усім сведчыць: маўляў, я — жанчына, таму заслугоўваю павагі і падтрымкі?..

**— І ўсё ж, ці існуе дыскрымінацыя жанчын?**

— Дыскрымінацыя — слова палітычнае. Такой палітыкі ў адносінах да жанчыны, мяркую, няма. Але сацыяльна-эканамічная сітуацыя, у якой мы зараз жывём, для жанчыны, ды і для мужчыны часам набліжаецца да дыскрымінацыйнай. Адна з прычын звязана з тым, што з'явіўся прыватны сектар у грамадстве, дзяржава зняла з сябе шэраг функцый. Напрыклад, раней гарантавалася праца па спецыяльнасці, больш таго, малады спецыяліст на тры гады быў «прывязаны» да працы. Зараз дзяржаўныя і недзяржаўныя ВНУ дыпломы выдаюць, але нічога не гарантуюць у плане працы. Чалавек адчувае сябе няўтульна, у нейкім сэнсе дыскрымінацыйна. Да таго ж, яшчэ не выпрацавалася «рыначная» псіхалогія, згодна з якой чалавек становіцца таварам, які прадаецца, даражэе або становіцца больш танным... Толькі чамусьці пра гэта не вельмі хочуць гаварыць прыхільнікі рыначнага рэфарміравання.

**— Паводле Маркса, пры капіталізме рабочая сіла з'яўляецца таварам?**

— Гэта класічны выраз, які не змаглі абвергнуць ні заходнія антымарксісты, ні айчынныя.

**— Але ж у нас рабочая сіла нават на «тавар» не цягне: многія катэгорыі работнікаў на зарплату не ў стане аднавіць сілы (настаўнікі, урачы, культработнікі і г. д.)?**

— Маркс апісваў капіталізм, які толькі зараджаўся, эпоха была зусім іншая. З таго часу Заходняя Еўропа перажыла не адну стадыю прамысловых рэвалюцый, у сучаснай эканоміцы тон задаюць трансманаполіі, буйная вытворчасць. Усё гэта дазволіла ўзняць агульны сярэдні ўзровень жыцця... Але ж ці нармальна ў канцы XX стагоддзя рабіць стаўку на прыватную дробную вытворчасць?

**— Здаецца, менавіта Марксу належыць думка, што гісторыя паўтараецца двойчы, толькі адзін раз — у выглядзе трагедыі, другі — у выглядзе фарсу.**

— На жаль... Я часам бываю ў прыватных фірмах, што месцяцца ў зусім не прыстасаваных для вытворчасці памяшканнях: шыюць скураныя курткі, прымацоўваюць наклейкі на майкі, побач бегаюць дзеці... Класічная карціна дробнай вытворчасці, апісаная Марксам. Так жылі людзі дзесьці ў першай палове XIX стагоддзя ў Еўропе.

Меркаваць, што «чаўнакі» нам навозяць адзення-абутку з Польшчы ці Турцыі і мы будзем жыць, як Еўропа, — наіўна.

Можна зразумець прыватніка, які мае шмат прэтэнзій да дзяржавы: мы, маўляў, возім, шыем, вырабляем, а нас дзяржава не падтрымлівае. З боку прыватнага інтарэсу прэтэнзіі апраўданыя і зразумелыя. Але, калі глядзець на сітуацыю шырэй, — абапіраючыся на дробнага прыватніка, дзяржава ў цэлым эканамічна ніколі не дасягне сусветных паказчыкаў. Не выпадкова Прэзідэнт падкрэслівае: умовай паспяховага развіцця грамадства павінна быць перш за ўсё — буйная вытворчасць. І ўжо да яе — рынак.

**— Вы можаце прадставіць дэкларацыю аб даходах?**

— У мяне няма ніякіх «левых» даходаў — усё зарабляю сваёй працай.

**— Гэта не дзяржаўная тайна — колькі атрымлівае саветнік-кансультант у Адміністрацыі Прэзідэнта?**

— Мой аклад — 1 млн. 155 тыс. рублёў плюс даплаты за доктарскую ступень і за класнасць (усяго дзесьці каля паўтара мільёна).

**— Што самае непрыемнае ў вашай рабоце?**

— У чыноўніцкай рабоце ёсць асаблівасць — тэрмін. На любую паперку, дакумент на працягу месяца павінен быць дадзены адказ — станоўчы ці адмоўны, але бываюць пытанні, якія складана вырашыць і за дзесяцігоддзе. Шмат перагрузак... Трэба мець прафесіянальны навык, гнуткую нервовую сістэму і добрае пачуццё гумару.

**— Жанчын-аналітыкаў у Адміністрацыі Прэзідэнта мала?**

—Адзінкі.

**— Прыемна працаваць сярод мужчын?**

— Галоўнае — не тое, што працуеш сярод мужчын, а — сярод якіх мужчын. Яны прываблiваюць перш за ўсё сваім высокім узроўнем адукаванасці і культуры. І самі сцены, і пасады абавязваюць людзей паводзіць сябе годна і прыгожа.

**— Як на дзяржслужбе вам удаецца заставацца жанчынай?**

— Я не ведаю, як. Проста. Дадатковых намаганняў для гэтага не прыкладваю і з гэтага боку нічога ў сабе не мяняю. І наогул, мне падабаецца вядомы філасофскі афарызм: «Не люблю людзей, якія для таго, каб зрабіць уражанне, павінны лопнуць, як бомба, і паблізу ад якіх рызыкуеш страціць слых ці больш таго».

**— Вы любіце кампліменты?**

— Хто ж не любіць прамога, адкрытага падхалімажу! (Смяецца).

Да кампліментаў стаўлюся з гумарам.

**— Ці лічыце сябе эмансіпіраванай жанчынай?**

— У рацыянальных адносінах — так: з боку разумення многіх праблем я чалавек свабодны і эмансіпіраваны. Але на ўзроўні пачуццяў я даволі кансерватыўная. Таму часам праблемы ўзнікаюць: пераступіць праз шэраг умоўнасцей не магу.

**— Вы любіце экстравагантна апранацца?**

— Люблю, ды толькі пасада не дазваляе. Акрамя таго, з узростам варта памятаць пра неабходнасць захоўваць меру, каб экстравагантнасць не выглядала безгустоўнасцю.

**— Вы — разумная жанчына альбо — мудрая жанчына?**

— Калі выбіраць паміж мудрасцю і розумам... Мяркую, разумная, можа нават і занадта (смяецца)... А мудрасць — гэта ўжо легенда і слава пазажыццёвая.

**— Бернард Шоу (услед за Сакратам) тлумачыў: мужчына становіцца філосафам, калі ў яго дрэнная жонка. Цікава, а калі жанчына становіцца філосафам?**

— Платон гаварыў: жанчына стане філосафам, калі ў яе вырастуць вусы і барада. А калі сур'ёзна, Сакрат лічыў, што філасофія — гэта жывая пропаведзь. Заўсёды кажу, што Сакрат самы лепшы філосаф для студэнтаў, бо не напісаў ніводнай кніжкі. Тым не менш, ён стаў легендай.

**— Можа таму, што падрыхтаваў добрых вучняў?!**

— Так. Праца філосафа высакародная і ўдзячная. Вельмі люблю сваю прафесію — філасофію як пропаведзь высакародных ісцін. Калі чытаю лекцыі, атрымліваю маральнае задавальненне: бачу, што на аўдыторыю філасофія ўплывае станоўча.

**— Сям'я, сябры ўплываюць на стан філосафа-прапаведніка?**

— Замуж я выйшла за фізіка. Мусіць, выказванне Леніна пра саюз філосафаў з прыродазнаўцамі ўспрыняла ў кантэксце шлюбнага саюзу (смяецца). 22 гады разам. У нас добрыя сябры, раней мы часта збіраліся, разам ездзілі ў горы. Калі прыходзяць калегі мужа, люблю гуляць з імі ў шахматы. Часам муж папярэджвае: «Да нас людзі не будуць хадзіць: замест таго, каб боршч гатаваць і на стол падаваць, ты ў шахматы гуляеш!»

**— Што вы ўмееце гатаваць?**

— Гэта не праблема — абы было з чаго.

**— Бакал шампанскага ў руках — ці не прыніжае ён у вашым разуменні кіраўніка, жанчыну?**

— Ніколі!

**— Дзеці вучацца за мяжой?**

— Дачка (адзіная) скончыла англійскую спецшколу, і музычную па класу фартэпіяна, педвучылішча, зараз вучыцца ў Белдзяржуніверсітэце на факультэце міжнародных адносінаў.

**— Нездарма гэты факультэт многія называюць прэзідэнцкім!**

— Гэта факультэт універсітэцкі, а вучыцца там толькі той, хто пераадолеўшы вялікі конкурс, паступае.

**— Вы — чалавек веруючы ці атэіст?**

— Я — філосаф... Зараз многія мае студэнты і аспіранты — веруючыя. Яны часта кажуць, што я таксама павінна быць веруючай: філосаф імкнецца выйсці за рамкі штодзённасці, хадзіць па краі бездані, заўсёды хоча зазірнуць, што ж там, далей. Здаецца, філосаф не можа быць ні атэістам, ні веруючым чалавекам, бо тады ён перастане быць філосафам. Рэлігій шмат, і кожная па-свойму цікавая для філосафа — як, дарэчы, і пазіцыя атэізму. Сам факт, што побач існуюць рэлігія і атэізм, сведчыць пра пошукі чалавекам нейкага сінтэтычнага светапогляду, які, магчыма, спалучаў бы ў сабе і тое, і другое. Філасофія імкнецца разважаць, падштурхоўвае да роздуму над рэчаіснасцю іншых, а рэлігія — да таго, каб верыць.

**— Слепа?**

— Сляпая вера — так гавораць атэісты. А вернікі кажуць: святая, чыстая. Але філосаф, калі нават верыць у штосьці, абавязкова павінен пакінуць 1 працэнт сумнення, інакш яго розум засне, і ён ужо не будзе існаваць як філосаф.

**— А што святое для Вас асабіста?**

— Бацькі і дзеці.

**— Вы ўзгадвалі Канта — а ён у сваім трактаце «Крытыка чыстага розуму» задаваў пытанні: што я магу ведаць, што я павінен рабіць, на што я магу спадзявацца?**

— Кантаўскія пытанні — актуальныя для ўсіх часоў і ўсіх філосафаў. Яшчэ Сакрат сказаў: я ведаю, што я нічога не ведаю, але ты, мой дружа, не ведаеш і гэтага... Як бачыце, адказаў яшчэ большым пытаннем.

Што робіш? — спыталі неяк філосафа. Адказаў: нічога. У мяне ёсць думка. Я не думаю.

На што спадзявацца? Чалавек заўсёды спадзяецца на лепшае.

**— У вас ёсць жыццёвы дэвіз?**

— Ніколі не думай, што сонца свеціць толькі табе аднаму...

**Гутарыла**
**Таццяна ПАДАЛЯК.**

# ...цкая мэблевая фабрыка»: ...АПЕЙСКІ СТЫЛЬ...

...якасць. Калі яе не будзе, то і тваю прадукцыю наўрад ці хто будзе купляць, што адпаведным чынам адаб'ецца на кожным работніку.

Есць яшчэ адно «але». Раней у нас кожны від мэблі рабіў пэўны калектыў ці брыгада. Мы не мелі ніякіх праблем. Потым прадпрыемства перайшло на канвеер: адны рабочыя абразаюць зыходны матэрыял, другія — сверляць дзіркі, трэція яшчэ нешта робяць. І ланцужок замыкаецца на складзе гатовай прадукцыі. Усё гэта было б добра, калі б кожнае звяно працавала без збояў. А калі раптам на якім-небудзь участку працэс вытворчасці спыняецца, то ўсе астатнія работнікі гуляюць. Гэтак нельга. Таму зараз, працуючы на заказ, думаем вярнуцца да брыгаднага метаду работы. Адна брыгада, 20—30 чалавек, няхай робіць сталы, другая — шафы... А ў цэлым атрымліваецца набор.

**— Зараз на фабрыцы ўсё ідзе добра, і дзякуй Богу. А раптам заўтра сённяшнія вашы заказчыкі офіснай мэблі скажуць: прабачце, але ў нас ёсць больш выгадныя кантракты, ці наогул прадукцыя ваша заляжалася на складзе... Што тады?..**

— Трэба сказаць, што фантазіі вам не пазычаць. Дарэчы, мы такі варыянт зусім не лічым нечым нерэальным. Зараз час такі, што ўсё можа здарыцца. Да таго ж, на мой погляд, ужо бачна, што адбылося перанасычэнне рынку офіснай мэблі і мы плаўна пераходзім на выпуск бытавой мэблі — кухань, спальных гарнітураў. Вядома, пераарыентацыю такую трэба было зрабіць раней, але ж лепш позна, чым ніколі.

Зазначу, што за ўвесь «офісны час» мы не развучыліся вырабляць і школьную мэблю. На жаль, рэспубліка бярэ яе ў нас вельмі мала. Ільвіная доля паставак ідзе ў Расію.

Не буду хітрыць, але выраб бытавой мэблі для слуцкай фабрыкі і нешта новае, і адначасова пройдзены этап. Зразумела, з вядучымі прадпрыемствамі рэспублікі, якія знаходзяцца ў Пінску, Мазыры, Маладзечне, у галіне вытворчасці мэблі для быту нам пакуль нельга цягацца, аднак пэўны прагрэс у гэтай справе мы маем.

Зноў жа, наш козыр — якасць. Я рэальна ўзважваю ўсё і ведаю свае магчымасці. Прытрымліваюся такога пункту гледжання: мэбля павінна быць даступная па цане і дасканала выробленая...

**— З гэтым цяжка не пагадзіцца. Скажыце, ад каго залежыць дасканаласць?**

— Ад кожнага работніка, які хоць нейкім чынам задзейнічаны ў вытворчасці пэўнага віду прадукцыі. Здагадваюся, што вы хочаце пачуць адказ у больш тонкай плоскасці.

**— Так-так. Спачатку ж гатовы гарнітур бачыць толькі мастак...**

— У нашым выпадку гэта інжынер. Дык вось я, відаць, з'яўляюся адным з нямногіх кіраўнікоў у нашай галіне, які ўласнаручна малюе эскізы для будучых сталоў, шафаў...

**— Значыць пра тое, што вам адначасова прыходзіцца быць не толькі дырэктарам, але і эканамістам, бухгалтарам, прадпрымальнікам, і казаць няма чаго.**

— Думаю, што такі лёс у кожнага кіраўніка прадпрыемства. Не паверыце, але ў свае 50 гадоў не магу спакойна спаць. Ідзеш на выхадны — увесь час адольваюць думкі аб тым, дзе што купіць патанней, як выгадней прадаць. Я нават калі еду на якую-небудзь нараду ці семінар, то бяру з сабой дыктафон. У дарозе прыйдзе цікавая думка — я яе запішу. А потым праслухаю і бяру на заметку на рабоце.

**— Генадзь Пятровіч, адкуль усё ж у вас дар мастака?**

— Я не назваў бы гэта дарам. Як кажуць, Бог надзяліў здольнасцю крыху маляваць і добрай памяццю. Бываючы на якой-небудзь выставе, абавязкова ўбачыш нейкія цікавыя экспазіцыі, формы, міма якіх прайсці немагчыма. Хочацца нешта падобнае і ў сябе на вытворчасці ўкараніць. А нахабна перамалёўваць не будзеш. Прыходзіцца запамінаць.

**— З вас мог бы атрымацца добры разведчык...**

— Вось гэтага не трэба. Чалавек павінен займацца той справай, якую ён дасканала ведае і дзе будзе прыносіць карысць людзям.

**— Вам знаёмы павышаны тон, а людзям — ваш моцны кулак?**

— Правакуеце мяне на адкрытасць? Калі ласка. Адзін з маіх недахопаў заключаецца ў тым, што магу часам выказацца на чыста рускай мове, г. зн. памацюкацца. Метад тэрору, выкручвання рук — не мой.

Люблю прастату, шчырасць, сумленнасць. Для мяне, калі работнік правініўся і гаворыць пры гэтым праўду — нармальная з'ява. Я, на першы погляд, чалавек рэзкі, але вельмі павольны ў прыняцці рашэння наконт пакарання. Чытаю дакумент і бачу людзей увачавідкі. Даю ім яшчэ адзін шанц выправіцца, таму што ведаю — у кожнага сям'я...

**— Гэтым самым вы рызыкуеце, берацеся перавыхаваць работніка...**

— Ну, мэблевая фабрыка — гэта не дзіцячы сад, дзе займаюцца выхаваннем дзяцей. Тым не менш, кожны дырэктар прадпрыемства павінен быць псіхолагам і чалавекам рызыкоўным. Не трэба баяцца рызыкаваць. Але ведай: калі ты рызыкнуў і атрымаўся «пракол» — будзь гатовы адказаць за свой учынак.



***Матэрыял рэкламна-інфармацыйнай старонкі падрыхтаваў Уладзімір ЗДАНОВІЧ. Фота кампаніі «VOLIS» і Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.***



***Мэблевы офісны набор «ГЛОРЫЯ».***
**Элегантнасць выканання найлепшым чынам спалучаецца з вашым дзелавым стылем.**



***Набор мэблі для кухні «ГАЛІНА».***
**Гэта тое, аб чым марыць кожная гаспадыня. Прыгожая на выгляд і зручная ў карыстанні.**



***Спальны гарнітур «КАЦЯ» не пакіне вас раўнадушнымі.***



***Мэблевы набор для офіса «ВЕНА-ПРЫМА».***
**Гарманічнае спалучэнне формы і колеру стварае спрыяльныя ўмовы для плённай работы.**



***Слуцкая мэбля атрымоўваецца прывабнай і арыгінальнай, дзякуючы прафесіяналізму работнікаў фабрыкі. Якасцямі прафесіяналаў валодаюць брыгадзір станочнікаў Барыс ПЯТРОЎ і яго калега Уладзімір БАРЦЭВІЧ.***

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 42 (61)




## НОВЫ ГОД СУСТРЭНЕМ З ШАМПАНСКІМ

Наперадзе адно з самых масавых святаў — Новы год. Улічваючы, што ў краіне манапалістам з'яўляецца Мінскі завод шампанскіх вінаў, мы пацікавіліся ў Міністэрстве гандлю, наколькі прадпрыемства гатова задаволіць чакаемы ўсплёск попыту, калі ўжо зараз, задоўга да зімовага свята, сярод мноства замежных аналагаў на паліцах магазінаў айчыннае шампанскае нярэдка адсутнічае.

— Сапраўды, наша шампанскае карыстаецца нязменным поспехам, — гаворыць намеснік міністра гандлю Міхаіл Еўтухоўскі. — Зразумела, што па гэтай прычыне ў продажы яно не затрымліваецца. Смак, прымальная цана даваляюць айчыннаму напою канкурыраваць з замежнай прадукцыяй, якая, акрамя больш высокага кошту, яшчэ нярэдка і не вельмі добрай якасці.

Трэба зазначыць, што Мінскі завод шампанскіх вінаў — адно з нешматлікіх прадпрыемстваў, якое сёлета працуе толькі з абавязковай перадаплатай.

Што ж датычыць галоўнага зімовага свята, дык Міністэрства гандлю накіравала Міністэрству эканомікі прапановы аб павелічэнні квот на вытворчасць і аптовую рэалізацыю шампанскага на IV квартал 1996 года ў колькасці 50 тысяч дэкалітраў. Трэба меркаваць, Новы год сустрэнем як мае быць — пад «стрэлы» бутэлек з шампанскім.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



## ВІНШУЕМ!

*Ад усёй душы віншую з днём нараджэння любімую мамачку **Галіну Іосіфаўну Паўловіч.***

Няхай лёс радасць надоўга даруе,
На добрых людзей хай заўсёды шанцуе,
Няхай жыццё не стрэне няшчасцяў,
Дай бог надоўга здароўя і шчасця.

**Дачка Каця,** *в. Чырвоная Зорка.*

*Дарагая жонка, маці і бабуля **Таццяна Аляксандраўна Пушкіна!** Віншуем цябе з юбілеем! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту і доўгіх гадоў жыцця.*

**Муж, дзеці, унукі,** *в. Лапічы.*

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Сцяпана Міхайлавіча Васілюка.** Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці і доўгіх гадоў жыцця.*

**Сын Сяргей і ўнучка Алеся.**

*Віншую з 50-годдзем **Мікалая Іванавіча Рака** з г. Салігорска. Жадаю шчасця, здароўя, дабрабыту, поспехаў у працы.*

**Мікалай Малышчыц.**

*З 20-годдзем сумеснага жыцця віншуем сваіх бацькоў **Кіру Аляксандраўну** і **Васіля Васільевіча Малевічаў** з г. п. Крывічы Мядзельскага раёна.*

*Жадаем здароўя, дабрабыту і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Дзеці Таццяна, Марына, Вераніка.**

*Віншуем з днём нараджэння **Яраслава Маляёнка** з Пастаў. Жадаем здароўя, шчасця на ўсё жыццё.*

**Сям'я Лаўцоў.**

*Віншуем з днём нараджэння **Аляксея Уладзіміравіча Якубеля** (в. Сінькі). Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у працы і дабрабыту ў сям'і. Хай непрыемныя турботы сыдуць у цень, шчаслівы будзь навек і ў гэты дзень.*

**Ніна Сцяпанаўна з сям'ёй.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Ванду Антонаўну Раўдановіч.** Ад усёй душы жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, поспехаў ва ўсіх справах.*

**Марына, Ядвіга, Валя, Аня,** *в. Рытань.*

*Віншуем з днём нараджэння мужа, бацьку, дзеда **Івана Паўлавіча Лазука.** Жадаем моцнага здароўя, пабольш радасці і доўгіх гадоў жыцця.*

**Жонка, дзеці і сямёра ўнукаў.**

*Віншуем **Віктара Мяленцева** з днём нараджэння. Няхай заўсёды здзяйсняюцца мары, жаданні.*

**Оля, Таня,** *в. Старое Сяло.*

## ПРАДАЕЦЦА:

❑ Дом 6,5 х 10 у в. Неманіца, 3 км ад Барысава; новая скураная вупраж.
*Тэл. у Барысаве 29-8-20.*

❑ дом у в. Магілеўцы Пружанскага раёна, з участкам 20 сотак.
*Тэл. у в. Асошнікі 34-4-01. Латыш А. В.*

❑ скрыпка 1/4, была ў карыстанні, у выдатным стане.
*Тэл. у Мінску 274-62-03.*

❑ аўтамабіль «М-412», 81 г. в., нядорага. Звяртацца: Гродзенская вобл., Іўеўскі раён, в. Ляжневічы.
*Тэл. (8-295) 3-67-05, пасля 15.00. Станіслаў.*

❑ «УАЗ-469-Б», 87 г. в., у добрым стане (за 2300 $) ці мяняю на колавы трактар.
*Тэл. (8-272) 5-82-90, з 18 гадзін.*

❑ аўтамабіль «Масквіч-21406», 86 г. в., у добрым стане.
*Тэл. у Нясвіжскім раёне, 5-66-69.*

❑ запасныя часткі да Фольксваген-Гольф-1", 1,3 л, танна.
*Тэл. у Жодзіне (8-01775) 3-60-68.*

❑ тэрмінова зруб 9 х 9, сталярка (вокны, дзверы); лес абпілены (на зруб 6 х 6) танна.
*Тэл. у Жодзіне 4-39-75.*

❑ прадам альбо абмяняю дом у г. Беразіно, вул. Аляшкевіча, 7.
*Тэл. 5-40-04. Аўсіевіч.*

❑ электрабаян «Тапаз» з калонкамі і ўзмацняльнікам, быў у карыстанні, савецкія манеты.
*Тэл. (8-272) 5-82-90.*

❑ драўляны дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Кавалі (18 км ад Слоніма).
*Тэл. у Слоніме (8-262) 2-94-14, у Лідзе (8-261) 3-48-81.*

❑ вагон-дом на колах, фундамент, вароты на гараж, шчыты ўцяпляльныя для веранды.
*Тэл. у Драгічыне 2-15-79.*

❑ матацыкл К-650, з няспраўным рухавіком:
*Тэл. (8-273) 6-76-78.*

❑ драўляны дом з гаспадарчымі пабудовамі, садам, зямлёй (30 сотак) за 30 км ад Стоўбцаў.
*Тэл. у Стоўбцах 5-48-60.*

❑ кватэра 2- пакаёвая ў г. Паставы Віцебскай вобл.
*Тэл. у Паставах 2-27-68, у Смаргоні 2-27-49.*

❑ дом у добрым стане, з гаспадарчымі пабудовамі і прысядзібным участкам, у в. Заброеўцы Лідскага раёна (танна).
*Тэл. 99-3-44.*

❑ прычэп да «УАЗа», грузападымальнасць 1,5 т, 400 $, заводскі тэнт да «УАЗа» і іншыя запчасткі.
*Тэл. у Воранаве: (8-01594) 22-4-94; 21-9-94.*

❑ прычэп да матаблока, касілка.
*Тэл. у Мінску 232-98-98.*

❑ трактары «МТЗ», «ХТЗ-25», рухавік «Д-243», усё новае.
*Тэл. у Мінску (8-017) 242-84-18.*

❑ кватэры 2- і 3-пакаёвая ў цэнтры Мінска, плошча 30 і 51 кв. м.
*Тэл. 236-29-78 да 17 гадзін. Шостак.*

❑ новы дом з мансардай (без унутраных работ) за 60 км ад Мінска, у г. пас. Івянец (танна) — участак 8 сотак.
*Тэл. (8-293) 34-4-52, вечарам.*

❑ драўляны дом з гаспадарчымі пабудовамі, агародам у Вілейскім раёне.
*Тэл. у Вілейцы 5-36-00.*

❑ пасадачны матэрыял сартавых гладыёлусаў розных колераў. Гродзенская вобл., пас. Зэльва.
*Тэл. 2-13-04.*



## РОЗНАЕ

❑ складаю індывідуальныя псіхалагічныя гараскопы па даце і часе нараджэння.
*Тэл. 239-77-61.*

❑ мяняю 2- і 3-пакаёвую кватэры ў цэнтры Мінска на 1+1+3.
*Тэл. 236-29-78 да 17 гадзін. Шостак.*

❑ мяняю 3-пакаёвую кватэру, 2 паверх, цэнтр Мінска, на тры аднапакаёвыя.
*Тэл. 227-95-64, пасля 19 гадзін.*

❑ аказваем аўдытарскія паслугі.
*Тэл. 227-94-46.*

❑ вышлю 2-томнік сачыненняў Лермантава, самавучыцель машынапісу, пласцінку Р. Ларэці — запісы 60-х гг., усё ў выдатным стане. Ад вас — канверт са зваротным адрасам, купон «Звязды».
*223310, Беразіно, п/с 681034.*

❑ мяняю аднапакаёвую кватэру (18 кв. м), другі паверх цаглянага 5-павярховага дома ў Гомелі на Мінск альбо Дзяржынск.
*Тэл. у Мінску 240-68-96, у Дзяржынску (8-216) 54-6-54.*

❑ даю ўрокі беларускай мовы і літаратуры на даму.
*Тэл. 293-41-16.*

❑ куплю трактар «Т-40» у любым стане.
*Тэл. (8-256) 3-74-45.*





ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 268-28-77.**

**Палкоўнік міліцыі МІХАЛКОВІЧ:**

# «ЗАБОЙСТВА — ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ МІНСКІХ ВЫШУКНІКОЎ»

***Апошнія падзеі сведчаць аб актывізацыі дзейнасці беларускага МУС па раскрыццю крымінальных учынкаў рознай ступені цяжкасці — ад дробных да прадуманых, вытанчаных крадзяжоў, ад бойкі хуліганаў да заказных забойстваў. Злачынны свет нясе страты, але адступаць не збіраецца.***

***Пад пільным кантролем міліцыі застаюцца выпадкі розных забойстваў —на бытавой і іншай глебе нашай складанай рэчаіснасці. Таму, у прыватнасці, было б цікава даведацца, якія меры прымаюцца праваахоўнымі органамі ў галоўным горадзе рэспублікі па ахове жыцця і здароўя жыхароў і гасцей сталіцы. Аб гэтым — размова з першым намеснікам начальніка ГУУС Мінгарвыканкома — начальнікам крымінальнай міліцыі палкоўнікам Іосіфам Барысавічам МІХАЛКОВІЧАМ.***

**— Мінулае і сучаснасць. Якой была колькасць забойстваў яшчэ, скажам, 10 гадоў таму, калі па факту забойства маглі ўзняць на ногі амаль увесь кіруючы апарат гарадскога ўпраўлення ўнутраных спраў?**

— Аналізуючы статыстыку ўчыненых наўмысных забойстваў і замахаў за апошняе дзесяцігоддзе, бачыш, што з 1987 года іх колькасць увесь час узрастае. Так, калі ў азначаны год у Мінску былі зарэгістраваны ўсяго 33 такія злачынствы, то праз 6 гадоў — у 4 разы больш. Зараз менш за сотню забойстваў у год чакаць не прыходзіцца. Што цікава, самай высокай раскрывальнасці сталічнай міліцыі ўдалося дасягнуць у 1992 годзе — 96 працэнтаў, а самая малая была ў 1993-м — 78,5 працэнта.

Цяпер раскрыццю наўмысных забойстваў, як і раней, удзяляецца асаблівая ўвага.

**— Ці меркавалася загадзя рэзкае ўзмацненне жорсткасці нораваў і метадаў крымінальнага свету, той жа кідок уверх крывой лініі на графіку замахаў на жыццё і маёмасць грамадзян?**

— Стан злачыннасці ў Мінску, у тым ліку колькасць наўмысных забойстваў і замахаў, вядома ж, пастаянна аналізуецца спецыялістамі. Мы прадбачылі, што з пагаршэннем сацыяльна-эканамічных умоў існавання ў рэспубліцы, падзелам людзей на бедных і багатых, колькасць парушэнняў закона не знізіцца, а, наадварот, павялічыцца.

Калі летась у горадзе былі ўчынены 122 забойствы, то за студзень—верасень 1996 года — ужо 117. У сувязі з гэтым сталічныя органы ўнутраных спраў асноўныя свае намаганні накіроўваюць на раскрыццё цяжкіх злачынстваў, і ў першую чаргу наўмысных забойстваў і замахаў.

Адзначу, што ў Беларусі атрымаў развіццё нелегальны гандаль агнястрэльнай зброяй. Напрыклад, у 1995 годзе па рэспубліцы было ўчынена 605 злачынстваў з прымяненнем пісталетаў, стрэльбаў і іншых «прылад». Міліцыя выяўляе хатнія арсеналы і майстэрні па вытворчасці самаробнай зброі, якая потым усплывае на месцах злачынстваў.

Успамінаецца адзін такі арсенал, выяўлены на праспекце Скарыны. Гаспадар кватэры хаваў у сябе 6-зарадны рэвальвер без нумара, баявую гранату «Ф-1» без запальніка, 600 спартыўных патронаў, 250 патронаў кальцавога загарання, 80 патронаў для аўтамата, 3280 паляўнічых патронаў у цынкавых скрынках, 1400 малакаліберных патронаў, 54 патроны-імітатары «Экстра», 130 паляўнічых патронаў, 32 пірапатроны-дэтанатары, 8 нарыхтовак да глушыцеляў, 2 аптычныя прыцэлы, адкідны прыклад да аўтамата, дзяржанне і 8 магазінаў да ПМ, 13 магазінаў да пісталета Марголіна, 2 магазіны да малакалібернай вінтоўкі.

Падчас вобыску на кватэры яго былой жонкі яшчэ знайшлі карабін з аптычным прыцэлам, вінтоўку «ТОЗ-8», 650 патронаў да малакаліберкі, 14 рэвальверных патронаў, 96 патронаў да ПМ, 32 патроны да карабіна, 255 вінтовачных патронаў, ствалы да двухствольнай стрэльбы, 2 магазіны ад пісталета Сцечкіна з 20 патронамі, магазін да ПМ, замен для вінтоўкі, пісталетную кабуру.

І, нарэшце, у аўтамабілі «майстра» былі вінтоўка «ТОЗ-12» з аптычным прыцэлам і сямізарадны рэвальвер без нумара з 5 патронамі.

**— Як у Беларусі прымяняецца да забойцаў выключная мера пакарання — расстрэл? Ці атрымлівалі яны памілаванні? Наколькі апраўдана прымяненне да забойцаў-рэцыдывістаў выключнай меры? Што, калі памяняць яе на пажыццёвае зняволенне без права памілавання?**

— Паводле даных Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь, колькасць вынесеных смяротных прыгавораў у нашай краіне склала: у 1989 годзе — 5, 1990-м — 20, 1991-м — 21, 1992-м — 24, 1993-м — 20, 1994-м — 24, 1995-м — 37. Сёлета ўжо прыведзены ў выкананне прыгаворы ў адносінах да 35 грамадзян.

Вядома, што за апошнія два з паловай гады Прэзідэнт Беларусі адмовіў у памілаванні ўсім, хто быў прыгавораны да выключнай меры пакарання. З аднаго боку, гэта апраўдана, калі ўзгадваеш крывавыя «прыгоды» Міхасевіча, які забіў 38 чалавек у Віцебскай вобласці, ці сумна вядомага Чыкаціла з суседняй Расіі, на сумленні якога 52 трупы. Што датычыцца меры пакарання, дык лістападаўскі рэферэндум адкажа на пытанне аб тым, што неабходна ў Беларусі — расстрэл ці нешта іншае.

**— Што самае складанае для вышукнікоў зараз у справах аб забойствах? Напэўна, раскрыццё забойстваў па заказу? Як часта падобныя забойствы адбываюцца ў сталіцы?**

— Найскладанейшы працэс — гэта атрыманне неабходнай інфармацыі і ўстанаўленне сведак. Да ўчынення наўмыснага забойства, асабліва па заказу, злачынца старанна рыхтуецца, выбірае час, месца і зброю забойства, забяспечвае сабе алібі. Пасля забойства ён імкнецца знішчыць усе сляды, рэчавыя доказы і непрыметна пакінуць месца ўчынення злачынства. Гаварыць, што забойства было заказным, можна толькі тады, калі бандыта затрымаюць і высветляць усе абставіны яго проціпраўнага ўчынку. Падобныя забойствы ёсць цяпер і ў Мінску.

Уначы ў бальніцу хуткай дапамогі з агнястрэльным раненнем у грудзі трапіў грамадзянін М. Міліцыя даведалася, што замах на забойства быў спланаваны злачыннай групай з Шабаноў за тое, што М. адмовіўся вярнуць грошы за прададзеную ім выкрадзеную аўтамашыну. Чатыры раней судзімыя рэцыдывісты на аўто пад'ехалі да дома пацярпеўшага, і адзін з іх стрэліў у ахвяру з паляўнічай стрэльбы.

У сваёй кватэры з прызнакамі ўдушэння і рэзанай ранай на шыі быў знойдзены труп 26-гадовай Д. Злачынцы выкралі відэамагнітафон, залатыя вырабы і некаторыя насільныя рэчы. Высветлілася, што злачынства ўчынілі два раней судзімыя і непаўналетні, адзін з якіх з'яўляецца стрыечным братам мужа забітай.

**— Хто цяпер выступае заказчыкам забойства, колькі гэта справа каштуе, хто выканаўца?**

— Заказчыкам можа стаць любы, і каштуе забойства па-рознаму, і выканаўцы розныя. Напрыклад, два гады таму на глебе п'янства жонка наняла двух знаёмых, якія за 30 тысяч і бутэльку гарэлкі забілі яе мужа. А ў 1995 годзе сям'я для таго, каб не вяртаць пазыку, папрасіла асабліва небяспечнага рэцыдывіста за 4 мільёны рублёў забіць крэдытора. У выніку той быў задушаны. Аднак і такія расцэнкі не мяжа. Найбольшую ж колькасць злачынстваў учыняюць мужчыны ва ўзросце 30 гадоў і трохі болей, другі паказчык — за асобамі ад 18 да 24 гадоў. Да забойстваў часам сталі далучацца не толькі раней асуджаныя і беспрацоўныя, але і жанчыны, непаўналетнія.

**—Ходзяць чуткі, што выканаўцу заказнога забойства часта «ўбіраюць» следам за яго ахвярай?**

— Ва ўсякім разе, у Мінску такіх інцыдэнтаў не зарэгістравана.

**— У маі 1993 года, раніцай, на праспекце Машэрава ў Мінску быў забіты генеральны дырэктар канцэрна «Камінвест» Аляксандр Ліснічук. Забойца пакінуў на месцы злачынства свой карабін з аптычным прыцэлам. Як прасунулася следства па гэтым выпадку?**

— Па забойству Ліснічука беларускай міліцыяй прароблена вельмі вялікая работа, злачынства амаль раскрыта. Пакуль следства не можа пайсці далей з-за адсутнасці ўзаемапаразумення па некаторых пытаннях з эстонскімі калегамі, куды працягнуліся ніці гэтага злачынства.

**— Хто, акрамя людзей бізнесу, трапляе зараз пад кулі кілераў? І наогул, чаму грымяць стрэлы наёмнікаў: «павінны» грошы, нейкія вытворчыя і камерцыйныя справы, падзел здабычы, ці ёсць і нейкія іншыя прычыны?**

— Акрамя бізнесменаў, апошнія тры гады рэгулярна ахвярамі забойцаў становяцца лідэры злачынных груповак. У чэрвені 1996 года ў Мінску, на праспекце Машэрава, 53, меў месца выпадак, калі пры спробе замаху на аднаго з кіраўнікоў камерцыйнай фірмы быў смяротна паранены яго целаахоўнік.

Трэба зазначыць, што структура крымінальнага свету падверглася важным якасным змяненням. Бандыты аб'ядноўваюцца ў групы і супольнасці, учыняюць дзёрзкія напады, канспіруюць свае справы, імкнуцца да ўсталявання нячыстых кантактаў з супрацоўнікамі дзяржорганаў, у тым ліку і міліцыі, падтрымліваюць жорсткую ўнутраную дысцыпліну, валодаюць дасканалымі тэхнічнымі сродкамі.

На тэрыторыі Беларусі дзейнічаюць каля 200 арганізаваных злачынных груп. Яны сфарміраваліся з мэтаю сістэматычнага ўчынення злачынстваў, маюць адносна пастаянны круг саўдзельнікаў, такія групоўкі практыкуюць спецыяльную падрыхтоўку процізаконных актаў, выкарыстоўваюць прыёмы замятання слядоў, маскіруюць свой лад жыцця, прымаюць контрмеры для папярэджання выкрыцця. Яны маюць прыбытак з наркагандлю, праз сетку іграvых устаноў і рэкет, укараняюцца ў самыя рэнтабельныя галіны легальнага бізнесу — крэдытна-фінансавую сферу, прадпрымальніцтва і камерцыю, знешнеэканамічную дзейнасць, паліўна-энергетычны комплекс.

«Адмыванне» грошай ідзе праз сістэму акцыянерных банкаў і фірмаў. Выкарыстоўваючы запужванне, вымаганне, захоп заложнікаў, банды вымушаюць камерсантаў браць крэдыты, закупліваць і рэалізоўваць тавары, а прыбытак накіроўваць у «абшчакі». У падобных выпадках бізнесмены лічаць за лепшае звяртацца па дапамогу не ў міліцыю, а ў крымінальныя структуры сапернікаў ці ствараюць уласныя ахоўныя арганізацыі, што прыводзіць да разборак паміж імі, павелічэння колькасці баевікоў.

**— Можа, здараліся на вашай памяці замахі на дзяржаўных дзеячаў Беларусі, прадстаўнікоў мясцовай улады? Ці не стала забойства старшыні Гродзенскага аблвыканкома Арцымені заразлівым прыкладам у нас?**

— У сталіцы прыкладаў спецыяльна падрыхтаваных замахаў на дзяржаўных дзеячаў і кіраўнікоў мясцовай улады няма.

**— У савецкі час здараліся заказныя забойствы на тэрыторыі Беларусі? Хто праходзіў па іх як дзеючыя асобы?**

— У нашай рэспубліцы такіх забойстваў тады не было.

**— Наколькі «прыжыліся» ў Мінску забойствы на сексуальнай, маніякальнай глебе? Як яны раскрываюцца?**

— Не скажаш, што ў горадзе «прыжыліся» такія забойствы, але часам яны бываюць. У 1989—1990 гадах маньяк у Мінску і Мінскім раёне ўчыніў 9 забойстваў пажылых жанчын у лясных масівах. Яго ўдалося выявіць і арыштаваць. З мінулага года ў сталіцы было зарэгістравана 5 выпадкаў забойства прастытутак, што працавалі па выкліку. Гэтыя злачынствы пакуль не раскрыты.

**Ці з'яўляюцца цяпер якія-небудзь новыя, незнаёмыя раней, віды забойстваў? Напрыклад, па фактах прыватызацыі кватэр, падзелу вялікай спадчыны?..**

— Да новых відаў учынення забойстваў можна аднесці ўжыванне выбуховых устройстваў. Што датычыцца кватэрнай прыватызацыі, то ў Мінску ёсць такі выпадак. Зараз праводзіцца следства.

**— У якія тэрміны, у сярэднім, расследуецца забойства да таго, як следчы будзе вымушаны распісацца ў сваім бяссіллі і сказаць, што ўсё скончана, нічога не атрымліваецца?**

— Тэрміны расследавання ўсіх злачынстваў устаноўлены законам, і пры неабходнасці ў адпаведным парадку яны працягваюцца ў залежнасці ад абставінаў учыненага злачынства. Скажам, за 9 месяцаў сёлетняга года сталічнай міліцыяй раскрыты 2 забойствы за 1993 год, 1 — за 1994 год, 6 — леташніх. У працэнтных адносінах жа раскрывальнасць склала за 1995 год — 86,4 працэнта, а за студзень—верасень 1996 года — 80,3 працэнта.

**Інтэрв'ю правёў Сяргей ХРЫПАЧ, прэс-цэнтр МУС.**



# УЗБРОЙВАЕМСЯ ПАКРЫСЕ...

Вялікую занепакоенасць у праваахоўных органаў выклікае рост злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам зброі і боепрыпасаў у рэспубліцы. Улічваючы сур'ёзнасць гэтай праблемы, пракуратурай рэспублікі праведзена абагульненне следча-судовай практыкі і пракурорскага нагляду па крымінальных справах і матэрыялах гэтай катэгорыі спраў, вынікі якой разгледжаны на калегіі пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

Супрацоўнікамі пракуратуры вывучаны 254 крымінальныя справы, разгледжаныя судамі ў адносінах да 273 злачынцаў, 48 спыненых крымінальных спраў і матэрыялаў.

Калі да пачатку перабудовы ў рэспубліцы налічвалася некалькі дзесяткаў злачынстваў, учыненых з прымяненнем зброі, то ў 1995 годзе з прымяненнем зброі ўчынена 605 цяжкіх злачынстваў, за 7 месяцаў гэтага года — 349.

Значна павялічылася і колькасць злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў. У 1992 годзе такіх злачынстваў было зарэгістравана 880, а ў 1995 г. — ужо 1488. Утрая ўзрасла і колькасць асоб, прыцягнутых да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў захоўвання і перавозкі агнястрэльнай зброі, якая склала ў 1995 г. 1769 чалавек.

На калегіі адзначана, што заканадаўства ў гэтай галіне ў значнай меры ўстарэла і не адпавядае крымінагеннай сітуацыі ў рэспубліцы. Толькі крадзеж агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў адносіцца да разраду цяжкіх злачынстваў. Астатнія злачынствы, якія прадугледжваюць крымінальную адказнасць за незаконныя дзеянні з агнястрэльнай зброяй і боепрыпасамі, да ліку цяжкіх не адносяцца, адпаведна прадугледжваюцца і нязначныя меры пакарання. У той жа час здзелкі са зброяй становяцца для крымінагенных структур крайне выгадным бізнесам. Толькі супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС у першым паўгоддзі гэтага года канфіскаваны 74 адзінкі агнястрэльнай зброі (у тым ліку 48 наразной і 15 — аўтаматычнай, 80 кілаграмаў выбуховых рэчываў).

Жыхары Аршанскага раёна Ермакоў і Ган збіралі і збывалі агнястрэльную зброю і ўзрыўчатку, якія засталіся пасля вайны. Пры вобыску ў іх канфіскаваны проціпанкавая зброя, аўтаматы ППШ, дзесяткі гранат, сотні патронаў.

Актывізаваўся і падпольны выраб зброі і боепрыпасаў. У 1995 г. органамі дзяржбяспекі выяўлена 5 такіх падпольных майстэрань, дзе канфіскавана 49 адзінак зброі, больш як паўтара мільёна патронаў, некалькі кілаграмаў узрыўчаткі.

Праўда, Міністэрства абароны і ваенная пракуратура прымаюць меры па барацьбе з раскраданнем зброі. Гэта дало магчымасць знізіць крадзеж зброі ў 1995-м на 21 працэнт, а за 9 месяцаў сёлетняга — на 73 працэнты. Але...

Камандзір батальёна в/ч 04104 падпалкоўнік Шчэрбач на стрэльбішчы загадаў начальніку пункта боесілкавання Кафтанчыкаву загрузіць 20 гранат і дзве скрынкі з патронамі да АК-74, якія пасля дастаўкі перанёс у службовы кабінет і прысвоіў. Пры гэтым даў указанне Кафтанчыкаву ўнесці ў справаздачныя дакументы заведама лжывыя звесткі аб тым, што гэтыя гранаты і патроны зрасходаваны пры правядзенні заняткаў.

Працягваюць мець месца недастатковы прафесіяналізм і фармальны падыход да ўзбуджэння крымінальных спраў і ўстанаўлення прычын і ўмоў, якія спрыяюць учыненню злачынстваў гэтай катэгорыі.

У ліпені гэтага года судом Савецкага раёна г. Мінска за крадзеж табельнага пісталета ПМ і 2 абоймаў да яго ў супрацоўніка падатковых расследаванняў былі асуджаны раней судзімыя Кудрыцкая, Падаляніна і Пясецкі.

У ходзе следства і судовага разгляду справы было ўстаноўлена, што пацярпеўшы, працуючы на пасадзе намесніка начальніка ўпраўленння дазнання Галоўнага ўпраўлення падатковых расследаванняў пры Міністэрстве фінансаў, выпадкова пазнаёміўся з асуджанымі, распіваў з імі спіртное. Паколькі намеснік начальніка аказаўся найбольш «слабым» ва ўжыванні спіртнога, злачынцы забралі яго табельную зброю, прадалі, а грошы зноў патрацілі на набыццё спіртнога. Справа доўгі час не разглядалася з-за няяўкі пацярпеўшага ў суд, нават прыйшлося вынесці прысуд аб яго прымусовым прыводзе. Але пакуль ішло следства і суд, пацярпеўшы з намесніка начальніка быў павышаны па службе і стаў начальнікам упраўлення.

Нямала фактаў недастатковага прафесіяналізму аператыўных службаў па раскрыццю злачынстваў гэтай катэгорыі, не заўсёды можна зразумець і прызначэнне пакаранняў некаторымі судамі за злачынствы, якія маюць выключную грамадскую небяспеку.

Так, у лістападзе 1995 г. Баранавіцкім РАУС была ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах да раней судзімага Стальмашука. У яго выяўлена 20 ракет С-8, прызначаных для знішчэння бранятэхнікі і пяхоты. Следствам устаноўлена, што ракеты Стальмашук захоўваў у падвале шматкватэрнага дома больш чым год, нават адну ракету перадаў Васільеву, які схаваў яе ў канапе сваёй кватэры. Аб наяўнасці гэтых ракет ведалі многія падлеткі і з ахвотай хадзілі на іх паглядзець. Прама скажам пашанцавала жыхарам гэтага дома, а таксама тым, якія размешчаны побач, што падлеткі не сталі абследаваць зброю. У кожнай ракеце было каля 15 кілаграмаў узрыўчаткі. Яна магла ўзарвацца ад удару ці нават награвання.

Тым не менш, аператыўнымі службамі РАУС гэты факт не быў своечасова выяўлены. Не ўстаноўлена і крыніца, дзе віноўнік набыў боепрыпасы. У чэрвені гэтага года Стальмашук быў асуджаны да 1 года і 6 месяцаў, а Васільеў — да аднаго года пазбаўлення волі ўмоўна. Пракурорам раёна прыгавор быў апратэставаны з прычыны мяккага пакарання. Брэсцкі абласны суд адмяніў прыгавор, але накіраваў справу на даследаванне — для праверкі экспертамі баявых якасцей ракет. Пасля даследавання, пры новым разглядзе, судом прадубліраваны папярэдні прыгавор, відаць, каб пракурор не перашкаджаў суду. Пракуратурай рэспублікі апратэставаны прыгавор. Хацелася б спадзявацца, што будзе, нарэшце, вызначана пакаранне з улікам цяжкасці ўчыненага. Бо пры такіх адносінах хутка падвалы жылых дамоў ператворацца ў ваенныя сховішчы, а злачынцы будуць абыходзіцца толькі лёгкім спалохам.

Па выніках абагульнення пракуратурай рэспублікі ўнесены канкрэтныя прапановы на разгляд Міжведамаснай камісіі па барацьбе са злачыннасцю і наркаманіяй пры Савеце бяспекі Рэспублікі Беларусь. Генеральным пракурорам таксама дадзена даручэнне падрыхтаваць прапановы аб змяненні дзеючага крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага заканадаўства ў частцы расследавання крымінальных спраў гэтай катэгорыі.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора.**

# Вымушаная затрымка на станцыі «Савет Еўропы»

**У Мінску прайшла двухдзённая міжнародная канферэнцыя «Шлях у Еўропу: вопыт Савета Еўропы»**

Яна была арганізавана Нацыянальным цэнтрам стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад» пры маральнай і матэрыяльнай падтрымцы Савета Еўропы.

Канферэнцыя сабрала даволі прадстаўнічае кола. Магчыма, цікавасць падагравалі заяўленыя яе арганізатарамі выступленні Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага і кіраўніка Палітычнага дэпартамента Савета Еўропы Ханса-Пітэра Фурэра. Спікера Шарэцкага не дачакаліся, але затое выслухалі грунтоўную лекцыю пана Фурэра аб прызначэнні і сутнасці Савета Еўропы.

На гэтым, уласна кажучы і закончылася абмеркаванне вопыту памянёнай арганізацыі. Прадстаўнікі Беларусі (яны, натуральна, складалі большасць удзельнікаў канферэнцыі) адразу ўзялі быка за рогі — перайшлі да «хатніх» праблем нашага супрацоўніцтва з СЕ. Як гэта ні дзіўна, але менавіта непрыняцце Беларусі ў Савет Еўропы выклікала цікавасць да яго.

Вымушаная і малапрыемная, нават у нечым абражальная для нас затрымка на шляху ў вялікую Еўропу на буйнейшай вузлавой еўрапейскай станцыі пад назвай «Савет Еўропы» паступова са сферы міжнародных адносінаў перайшла ва ўнутрыпалітычнае жыццё, якое сёння нагадвае поле «халоднай» вайны. Калі яшчэ параўнальна нядаўна праблематыкай уступлення Беларусі ў Савет займалася адносна вузкае кола дэпутатаў Вярхоўнага Савета, дыпламатаў, экспертаў, спецыялістаў, то цяпер да іх далучыліся палітычныя партыі, плыні, дэпутацкія фракцыі.

І ў кожнага свая пазіцыя і меркаванне па гэтым пытанні. У асноўным на ўзроўні крытычнага асэнсавання супрацоўніцтва выканаўчай улады з Саветам Еўропы. Затрымка Беларусі з уступленнем у гэту аўтарытэтную арганізацыю выклікала шмат заяў, папрокаў у бок Прэзідэнта і яго каманды. Што ў чарговы раз і прадэманстравала канферэнцыя.

Сітуацыя вакол уступлення ў Савет Еўропы, на мой погляд, адлюстроўвае і пэўны этап у развіцці нашага грамадства, палітычнага жыцця краіны. Скажыце, што мы раней чулі пра нашы «праколы» на міжнароднай арэне? Калі і чулі, то рэагавалі на іх абыякава, бралі на веру (ці не бралі) афіцыйныя тлумачэнні.

Цяпер жа адтэрміноўка з прыняццем Беларусі ў Савет Еўропы ў нечым нават закранула нашы нацыянальныя пачуцці. З крыўдай усведамляецца тое, што мы былі лепш падрыхтаваны за іншыя дзяржавы да ўступлення ў СЕ, але ўсё ж прапусцілі ўперад сябе Малдову, Украіну, Расію, Харватыю. Акрамя нас яшчэ засталіся Арменія, Азербайджан, Грузія.

Здаецца, мы ўпершыню так ясна адчулі і ўбачылі, як наша процістаянне, сваркі, няўменне своечасова пайсці на кампраміс, прадбачыць негатыўныя наступствы асобных крокаў і рашэнняў, якія потым дрэнна адбіваюцца на іміджы маладой дзяржавы не толькі ў Еўропе, шкодзяць інтэграцыі Беларусі ў сусветную супольнасць.

Час ужо навучыцца правільна ацэньваць здольнасці апазіцыі, яе магчымасці па сваіх каналах уплываць на прыняцце міжнароднымі арганізацыямі выгадных ёй рашэнняў. Тым больш, што далёка не кожнае сцвярджэнне апазіцыі аб сітуацыі ў Беларусі адразу і стопрацэнтна ўспрымаецца за мяжой як аб'ектыўная рэальнасць. У гэтым я асабіста пераканаўся ў час працяглай гутаркі з панам Фурэрам. *(Яго эксклюзіўнае інтэрв'ю «Звяздзе» будзе надрукавана.)* Напрыклад, на прагучаўшую з вуснаў вядомага палітыка на канферэнцыі заяву аб тым, што ў 1994 годзе Беларусь была значна бліжэй да Савета Еўропы, ён заўважыў: «Гэта меркаванне вашага боку».

Думаецца, толькі насмяшыла гэтага высокапастаўленага і вельмі вопытнага прадстаўніка СЕ інфармацыя — прыклад жудаснай неразбярыхі ў нашай краіне аб тым, што міністр замежных спраў атрымлівае менш, чым пастаўны міліцыянер ля ўваходу ў будынак міністэрства.

І наўрад ці прыслухаецца ён да надзвычай радыкальнай ідэі не прымаць увогуле Беларусь у Савет Еўропы, бо гэта, маўляў, будзе толькі служыць легальным прыкрыццём для аўтарытарных спраў Аляксандра Лукашэнкі.

Не паверыць, як мне здаецца, тэзісу аднаго вядомага апазіцыянера з парламента аб тым, што пачынаючы з 1994 года выканаўчая ўлада рабіла ўсё магчымае дзеля таго, каб Беларусь не прынялі ў Савет Еўропы. Не зусім так. Напрыклад, яго эксперты даволі добра адгукаюцца аб плённай дзейнасці міжведамаснага Савета па супрацоўніцтву з СЕ на чале з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Русакевічам. Гэта структура, у якую ўваходзяць дзесяткі вядомых у сваёй галіне беларускіх спецыялістаў, шмат зрабіла для расчысткі завалаў на шляху ў Еўропу.

І не іх віна, што ў гэту бочку з мёдам час ад часу тая ж выканаўчая ўлада падкідае лыжку дзёгцю. У выніку чаго паўстае рэальная пагроза палітычнай ізаляцыі нашай краіны на еўрапейскім кантыненце. І як бы ні імкнулася наша дыпламатыя пераканаць кіраўніцтва Савета Еўропы ў спецыфічнасці грамадскіх працэсаў на Беларусі, у Страсбургу наўрад ці зробяць для нас выключэнне, як для Расіі. Бо ўжо вельмі непараўнальныя мы і Расія па палітычнаму, эканамічнаму і ваеннаму ўплыву ў свеце. А таму самая пара задумацца над тым, каб наша працяглая затрымка на станцыі «Савет Еўропы» не аказалася, гаворачы мовай чыгуначнікаў, еўрапейскім тупіком.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГАВЫДАЎЦЫ ПАКАЗАЛІ ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СВАЁЙ ПРАДУКЦЫІ Ў ФРАНКФУРЦЕ. І ПАСПЯХОВА

Значная падзея ў жыцці кнігавыдаўцоў усяго свету адбылася нядаўна ў Франкфурце-на-Майне. Не абмінулі сваёй увагай яе і беларускія кніжнікі. Прадстаўнічая дэлегацыя з 17 чалавек на чале са старшынёй Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па друку У. Бельскім на працягу работы кірмашу не толькі з цікавасцю ўспрымала і назапашвала сусветны вопыт кнігавыдання, але аднаўляла старыя і ўсталёўвала новыя сувязі. Трэба адзначыць, што сам кірмаш з'яўляецца кульмінацыйным пунктам у рабоце, якую на працягу года вялі кніжнікі Беларусі, бо тут ставіцца апошняя кропка ў падрыхтаваных і адпрацаваных на працягу года пагадненнях і кантрактах. Нашы выдаўцы прывезлі ў Франкфурт найлепшыя ўзоры сваёй прадукцыі, якія прыстойна выглядалі на стэндах экспазіцыі і былі канкурэнтаздольнымі. Нездарма шэраг замежных фірмаў заключылі дамовы з дырэктарам Мінскай фабрыкі каляровага друку А. Аксененкам на выраб сваёй прадукцыі на нашым паліграфпрадпрыемстве.

На стэндах, дзе было выстаўлена больш за 200 назваў кніг і альбомаў нашай краіны, пачэснае месца займалі энцыклапедыі і падручнікі, шматколерная дзіцячая літаратура, даведнікі па розных галінах навукі і культуры. Нездарма каля стэндаў экспазіцыі было так шматлюдна. А тым часам кіраўнікі як дзяржаўных, так і камерцыйных выдавецкіх структур вялі перамовы па набыццю і ўступцы правоў на выданне літаратуры як на рэспубліканскім стэндзе, так і ў офісах замежных кнігавыдаўцоў. Можна з упэўненасцю сказаць, што плён ад гэтага будзе, бо на гэтым кірмашы можна было пазнаёміцца з выдадзенымі ў Беларусі «Гісторыяй Еўропы» і «Кішэнным анатамічным атласам» (выд. «Вышэйшая школа»), правы на якія былі набыты на мінулагоднім кірмашы. «Юнацтва» прывезла экземпляры беларускіх казак, выдадзеных раней па заяўках германскіх кнігагандляроў на нямецкай мове і ў афармленні славутых мастакоў А. Лось і У. Славука. Акрамя таго былі перададзены для вывучэння і выпуску ўзоры дзіцячых кніг калегам са Славакіі, Венгрыі, Польшчы, ФРГ і Аўстрыі. З прадстаўнікамі кіраўніцтва «Біенале ілюстрацыі Браціслава» (Славакія) дасягнута дамоўленасць аб экспанаванні ў 1997 годзе ілюстрацый дзіцячых кніг У. Славука.

Кіраўнікі двух беларускіх выдавецтваў, якія займаюцца выданнем вучэбнай літаратуры, І. Лапцёнак («Народная асвета») і А. Жадан («Вышэйшая школа») прынялі ўдзел у рабоце міжнароднага семінара па прадстаўленню адукацыйных матэрыялаў па экалогіі, створаных навукоўцамі Вялікабрытаніі, Нідэрландаў і Польшчы, а таксама ў міжнароднай сустрэчы прадстаўнікоў педагагічных выдавецтваў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы (PEPGroup), якая праходзіла пад патранажам вядомых заходніх кнігавыдавецкіх фірмаў «Klett» (ФРГ) і «Nattan» (Францыя). Былі абмеркаваны праекты сумеснага выдання падручнікаў па гуманітарных навуках.

Дырэктар «Універсітэцкага» У. Касько падпісаў з кіраўніцтвам выдавецтва «Media Rodnne» (Польшча) пагадненне аб сумесным выданні чатырох кніг па псіхалогіі, этыцы, маркетынгу. А гандлёвая фірма Петэрса (г. Ліена, ФРГ) зрабіла заказ на падручнікі выдавецтва па рускай мове, хіміі, біялогіі тыражамі да 1000 экземпляраў.

Аднавілі свае сувязі з замежнымі калегамі кіраўнікі выдавецтваў «Ураджай» (Ульянка Б.) і «Полымя» (Івановіч М.). Мы таксама абмяняліся ўзорамі сваёй прадукцыі з замежнымі фірмамі. Так, фірма «Алекс» (ФРГ) хоча выдаць на нямецкай мове «Беларускую кухню», а «Полымя» выдасць на рускай мове кнігі нямецкіх аўтараў Х. Хёфлікта «Все чудеса в одной книжке» і «Упражнения для позвоночника». З англійскай мовы будзе перакладзена кніга фірмы Marshall Cavendish «Квартирный декор».

З цікавасцю знаёміліся наведвальнікі кірмашу з прадстаўленай на стэндах прадукцыяй двух недзяржаўных выдавецтваў — «Амалфея» і «Эпалет».

Прыемна было бачыць па суседству прадстаўнікоў беларускіх кніжных фірмаў «Асар» і «Мет», якія займалі асобныя стэнды.

Новыя дамовы падпісаў дырэктар кнігагандлёвай фірмы «Белкніга» А. Гурыновіч па ўзаемных пастаўках кніжнай прадукцыі ў Германію і Беларусь.

Але ж галоўнае тое, што беларускія кнігавыдаўцы здолелі заявіць аб сабе на ўвесь голас, аднавіць прафесіянальныя кантакты, пазнаёміцца з сусветным вопытам кнігавыдавецкай галіны.

Нямецкі бок пацвердзіў тэрміны правядзення ўжо трэцяга семінара па праблемах выдання вучэбнай літаратуры ў Мінску напрыканцы сёлетняга года. Гэты семінар праводзіцца пад патранажам Дзяржкамдруку і Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь і з'яўляецца вынікам дамоўленасці паміж імі і Германскім біржавым саюзам, якая была дасягнута яшчэ ў 1994 годзе ў Франкфурце.

**І. ЛАПЦЁНАК,**
**дырэктар выдавецтва «Народная асвета», кіраўнік беларускай экспазіцыі на 48 Франкфурцкім міжнародным кірмашы.**

# У МІНСКУ АДКРЫЎСЯ НЯМЕЦКІ КУЛЬТУРНЫ ЦЭНТР ІМЯ ГЁТЭ

**На ўрачыстую цырымонію з гэтай нагоды ў Доме літаратараў сабраліся шматлікія прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Падобныя цэнтры існуюць усяго ў некалькіх сталіцах і гарадах былога Савецкага Саюза: Маскве, Санкт-Пецярбургу, Кіеве, Рызе, Алма-Аце і Тбілісі.**

— Сёння мы шмат гаворым аб пабудове еўрапейскага дома, над узвядзеннем якога мы сумесна працуем. Але мы ўжо на працягу многіх стагоддзяў жывём у гэтым доме. Ім з'яўляецца агульная еўрапейская культура. І нямецкі цэнтр у Мінску — сведчанне таму, — сказаў пасол ФРГ Готфрыд Альбрэхт.

Адкрыццё цэнтра — падзея таксама і для Германіі. На ўрачыстасць у Мінск павінен быў прыляцець з Мюнхена генеральны сакратар Інстытута ім. Гётэ Фрыдрых Зарторыус, але па тэхнічных прычынах самалёт не змог вылецець. Таму генсек скінуў па факсу (звярніце ўвагу на нямецкі падыход да публічных выступленняў) праект сваёй прамовы. У ім ён адзначыў, што тое, што доўга спее, прыносіць плён. Гэтым выказваннем ён адрэагаваў на факт афіцыяльнага адкрыцця цэнтра.

Яго прадстаўнікі ўжо больш як тры гады працуюць у Мінску. За гэты час яны разам з беларускімі сябрамі правялі шмат культурных мерапрыемстваў. Цяпер у цэнтры наладжана выкладанне нямецкай мовы, шырокія кантакты ў яго супрацоўнікаў склаліся са школамі Беларусі. Многім з іх аказана гуманітарная дапамога падручнікамі і іншай літаратурай. Ці, калі быць па-нямецку дакладным, у цэнтра ёсць кантакты з 1600 з 3000 настаўнікаў нямецкай мовы ў Беларусі.

Адным з важных момантаў дзейнасці інстытута ў Мінску стала адкрыццё бібліятэкі культурнага цэнтра. Яе фонд цяпер складае каля 4000 кніг па эканоміцы, філасофіі, псіхалогіі, палітыцы, рэлігіі, тэалогіі, мастацтву і г. д.

У слове ў адказ міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў і намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка падзякавалі Інстытуту імя Гётэ за вялікую працу па збліжэнню беларускага і нямецкага народаў. Гаварылі яны ўвогуле разумныя і цікавыя рэчы. Не ведаю чаму, але тады падумалася: вось так бы выступіць ім калі-небудзь на адкрыцці беларускага культурнага цэнтра, скажам, імя Янкі Купалы, у адной з еўрапейскіх сталіц.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## СПОРТ-ЭКСПРЭС

### ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ

# Віват, Мазыр!

У нашым жыцці ўсё мае ўласцівасць мяняцца. Футбольнае першынство — не выключэнне. Пасля пяці запар узыходаў на футбольны алімп сталічныя дынамаўцы ў шостым чэмпіянаце ўступілі чэмпіёнскую карону глыбінцы — мазырскаму МВКЦ, з чым мы палескіх футбалістаў і віншуем!

Інтрыга праследавала VI чэмпіянат Беларусі ў першай лізе літаральна ўсе 30 тураў. Цеснай парай тур за турам ішлі сённяшні чэмпіён і прызёр. Пасля нічыйнай сустрэчы ў Мазыры «Дынама», здаецца, выйшла на фінішную прамую і гатова было прымаць чэмпіёнскія віншаванні. Аднак, відаць, чорная кошка перабегла дарогу перад падначаленымі Івана Шчокіна. Дзве дынамаўскія нічые на апошнім адрэзку чэмпіянату адкрылі дарогу за золатам Мазыру, які свайго шанцу не ўпусціў. У апошнім, 30-м туры мазыранам на выездзе супраць магілёўскага «Тарпеда» дастаткова было згуляць унічыю, што яны з поспехам і зрабілі — 1:1. Перамога мінскага «Дынама» над адным з аўтсайдэраў першынства — лідскім «Абутнікам», які пакідае першую лігу, стала слабым для іх суцяшэннем. У выніку — толькі «серабро».

Бабруйская «Белшына» пацвердзіла рэпутацыю «бронзавага» прызёра і выйграла на выездзе з лікам 2:1 у салігорскага «Шахцёра».

Вынікі астатніх сустрэч: Ведрыч — Нафтан-Дэвон — 0:1, Дынама (Бр) — Дынама-93 — 1:3, Тарпеда (Мн) — Атака-Аўра — 2:1, Нёман — Маладзечна — 0:0, Лакаматыў-96 — Днепр — 1:2.

Выніковая турнірная табліца VI чэмпіянату Беларусі.

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **1. МВКЦ** | **30** | **24** | **4** | **2** | **64-17** | **76** |
| **2. Дынама (Мн)** | **30** | **23** | **6** | **1** | **83-20** | **75** |
| **3. Белшына** | **30** | **20** | **3** | **7** | **67-32** | **63** |
| 4. Дынама-93 | 30 | 17 | 5 | 8 | 44-30 | 56 |
| 5. Лакаматыў-96 | 30 | 13 | 10 | 7 | 48-27 | 49 |
| 6. Атака-Аўра | 30 | 13 | 51 | 2 | 31-42 | 44 |
| 7. Нафтан-Дэвон | 30 | 13 | 41 | 3 | 43-52 | 43 |
| 8. Маладзечна | 30 | 11 | 81 | 1 | 42-33 | 41 |
| 9. Днепр | 30 | 11 | 61 | 3 | 33-36 | 39 |
| 10. Дынама (Бр) | 30 | 7 | 11 | 12 | 39-43 | 32 |
| 11. Шахцёр | 30 | 8 | 5 | 17 | 29-50 | 29 |
| 12. Нёман | 30 | 7 | 8 | 15 | 25-48 | 29 |
| 13. Тарпеда (Мн) | 30 | 7 | 8 | 15 | 32-59 | 29 |
| 14. Тарпеда (Мг) | 30 | 7 | 6 | 17 | 27-64 | 27 |
| 15. Абутнік | 30 | 6 | 6 | 18 | 26-43 | 24 |
| 16. Ведрыч | 30 | 4 | 3 | 23 | 14-57 | 15 |

### АДБОРАЧНЫЯ МАТЧЫ ЧЭМПІЯНАТУ СВЕТУ-98

# Беларусы — на чацвёртай пазіцыі

Мінулыя выхадныя сталі для Еўропы футбольнымі. На яе палях прайшло 17 адборачных сустрэч да чэмпіянату свету-98.

Вось іх вынікі:

**Група 1.** Славенія — Боснія і Герцагавіна — 1:2, Харватыя — Грэцыя — 1:1. **Група 2.** Грузія — Англія — 0:2, Польшча — Малдавія — 2:1. **Група 3.** Азербайджан — Венгрыя — 0:3, Швейцарыя — Нарвегія — 0:1. **Група 5.** Люксембург — Расія — 0:4, Кіпр — Ізраіль — 2:0. **Група 6.** Югаславія — Чэхія — 1:0. **Група 7.** Галандыя — Уэльс — 7:1, Турцыя — Сан-Марына-70. **Група 8.** Ліхтэнштэйн — Македонія — 1:11, Ірландыя — Ісландыя — 0:0. **Група 9.** Албанія — Арменія — 1:1, Германія — Паўночная Ірландыя — 1:1.

У адборачнай **групе № 4,** дзе выступае і беларуская зборная, прайшлі дзве сустрэчы. Зборная Шатландыі дома абыграла шведаў (1:0), а аўстрыйцы нанеслі паражэнне камандзе Латвіі — 2:1. Вынікі гэтых сустрэч не ўнеслі змяненняў у турнірную табліцу, і беларусы па-ранейшаму займаюць чацвёрты радок.

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Шатландыя | 3 | 2 | 1 | 0 | 3-0 | 7 |
| 2. Аўстрыя | 3 | 2 | 1 | 0 | 3-1 | 7 |
| 3. Швецыя | 4 | 2 | 0 | 2 | 7-4 | 6 |
| **4. Беларусь** | **4** | **1** | **1** | **2** | **3-7** | **4** |
| 5. Эстонія | 2 | 1 | 0 | 1 | 1-1 | 3 |
| 6. Латвія | 4 | 0 | 1 | 3 | 3-7 | 1 |

Матч Эстонія — Шатландыя, які не адбыўся ў Таліне з-за няяўкі ў час гаспадароў, перанесены на 16 сакавіка 1997 г.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# Другое прышэсце Міхаіла Вяргеенкі

**Учора на пасяджэнні выканкома Федэрацыі футбола Беларусі тайным галасаваннем быў вызначаны новы галоўны трэнер нацыянальнай зборнай.**

З трох кандыдатаў — Сяргея Бароўскага (кіраваў зборнай да гэтага часу), Веніяміна Арзамасцава (памочнік галоўнага трэнера) і Міхаіла Вяргеенкі (узначальваў зборную з 1992-га па 1994 год) — перавагу атрымаў апошні, пасля чаго карэспандэнт «Звязды» ўзяў Міхаіла Нічыпаравіча яшчэ «цёпленькім».



**— Па-першае, віншуем. Вынікі галасавання сталі для вас нечаканасцю?**

— Калі б так было, то я не прапаноўваў бы сваю кандыдатуру на трэнерскую пасаду.

**— Якія працэнтныя суадносіны паміж вамі і іншымі кандыдатамі?**

— Шчыра кажучы, не ведаю. Але Іван Іванавіч Савосцікаў казаў, што, здаецца, амаль аднагалосна.

**— Што пераважае зараз у вас: пачуццё таго, што перамаглі, ці асэнсаванне факта: «Перамагчы перамог, але ж і за вынікі пасля спытаюць»?**

— Другое. І маральна да гэтага я падрыхтаваўся ўжо даўно.

**Алесь СІВЫ.**

**На здымку:** Міхаіл Нікіфаравіч вяртаецца.

# Ці мяняе Віталь Шчэрба грамадзянства?

Сенсацыйную навіну паведаміла інфармацыйнае агенцтва «Асашыэйтэд Прэс»: шасціразовы алімпійскі чэмпіён па спартыўнай гімнастыцы Віталь Шчэрба, які зараз жыве разам з жонкай Ірынай і дачкой Крысцінай у Злучаных Штатах, заявіў аб тым, што ён вырашыў памяняць беларускае грамадзянства на амерыканскае.

Цяжка сказаць, наколькі гэта заява блізкая да праўды, бо ўжо неаднойчы мы чулі падобныя чуткі. Не выключана і тое, што Віталь, маючы ад прыроды непрадказальны характар у плане сваіх учынкаў, проста вырашыў крышачку падняць свой рэкламны прэстыж. Бо добра помніцца яго словы: «Я магу жыць на Чукотцы, у Італіі альбо Аўстраліі, аднак заўсёды ведайце, што Шчэрба застанецца грамадзянінам Беларусі».

Як кажуць, пажывём — пабачым.

**Алесь СІВЫ.**



## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.31 | 16.17 | 8.46 |
| Віцебск – | 7.26 | 16.02 | 8.36 |
| Магілёў – | 7.20 | 16.07 | 8.47 |
| Гомель – | 7.14 | 16.08 | 8.54 |
| Гродна – | 7.47 | 16.32 | 8.45 |
| Брэст – | 7.40 | 16.40 | 9.00 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік**
**11 лістапада.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Тэрцыя, Марка, Анастасіі Салунскай.**

**К. Язафата-арцыбіскупа Полацкага, Рэнаты.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску — 6—8, Мінску, Магілёве — 7—9, Гродне, Гомелі — 8—10, Брэсце — 9—11 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца, толькі 14 лістапада месцамі пройдуць дажджы. Тэмпература ўначы — 3—8, удзень 13-га — 7—12, 14-га — 4—9 градусаў вышэй нуля.

# ПАКУПНІК ЗАЎСЁДЫ МАЕ РАЦЫЮ

**Каго не радуе разнастайнасць тавару, які запоўніў паліцы крамаў. Напэўна, гэта ўсім даспадобы, паколькі магчымасць выбару заўсёды павышае настрой. Але што рабіць, калі ваша пакупка, няхай гэта будзе абутак ці нават кавалак каўбасы, не заўсёды адпавядае нормам якасці? Ці заўсёды можна вярнуць ці абмяняць тавар, які па тых ці іншых прычынах не задавальняе вас? З гэтымі і некаторымі іншымі пытаннямі я звярнуўся да Генадзя МЕЛЬНІКА, начальніка ўпраўлення арганізацыі гандлю і абароны правоў спажыўцоў пры Міністэрстве гандлю РБ.**

**— Генадзь Абрамавіч, у мяне, як у прадстаўніка арміі пакупнікоў, адно з самых надзённых пытанняў: чаму пакупнік далёка не заўсёды можа вярнуць купленую рэч, якая не падышла, нават пры наяўнасці чэка?**

— Відаць, ваша пытанне трэба падзяліць на дзве часткі. Па-першае, у адпаведнасці з законам, ёсць пералік тавараў, якія не падлягаюць абмену. Пералічу іх: вырабы з каштоўных металаў, тэхнічна складаныя тавары з гарантыйным тэрмінам, тканіны метражныя, бялізна, парфумерна-касметычныя тавары, панчошна-шкарпэткавыя вырабы, пальчаткі, зубныя шчоткі, расчоскі, цацкі, фотаплёнка. А вось усе астатнія тавары на працягу 14 дзён вам павінны абмяняць, калі ёсць чэк, калі ярлык не парушаны. Калі ж вам не хочуць абмяняць, то гэта ўжо прамое парушэнне закона. Скажыце, хто вам перш за ўсё адмаўляе ў абмене?

**— Прадавец...**

— Правільна, прадавец. Вы ж перш за ўсё павінны звярнуцца да дырэктара і сказаць: «Згодна з законам вы абавязаны мне абмяняць». Часцей за ўсё дырэктар або загадчыца магазіна ідуць вам насустрач. Але калі не, то тут вы павінны звярнуцца ў органы кіравання гандлю або ў Міністэрства гандлю. У крайнім выпадку, ёсць таварыствы па абароне правоў спажыўца. І паверце, не было яшчэ ніводнага выпадку, каб мы не дапамаглі пакупніку абмяняць тавар, які не падышоў яму. Але гэта тое, што датычыць дабраякасных тавараў. А вось па няякасных таварах сітуацыя крыху іншая.

**— А што маецца на ўвазе пад вызначэннем «якасны» і «няякасны» тавар?**

— Вось, дапусцім, прывезлі вы тэлевізар дадому, ён добра працуе, але вам яго колер не спадабаўся. Ці ён у інтэр'ер не ўпісваецца. Тое ж самае, скажам, касцюм. Прынеслі дадому з крамы, прымералі — а памер не ваш. Дык вось гэта — дабраякасныя тавары, і яны падлягаюць абмену. А вось калі вы прывезлі дадому той жа тэлевізар, а ён праз два дні сапсаваўся — гэта ўжо няякасны тавар. Або купілі бутэльку дарагога віна, адкаркавалі — а там танная кісляціна.

**— А як справы з абменам такога тавару?**

— Тут ужо больш складана, тут крыху іншыя патрабаванні і іншая працэдура. Бо для таго, каб абмяняць няякасны тавар, неабходна правесці экспертызу. А экспертаў у нас у рэспубліцы, шчыра кажучы, вельмі мала. Таму з'яўляюцца пэўныя цяжкасці. Але мы актыўна працуем у гэтым напрамку і не пакідаем без увагі прэтэнзіі спажыўца.

**— А як часта ў ваша ўпраўленне паступаюць скаргі ад людзей?**

— Ды не вельмі часта. Па нашай статыстыцы, прыкладна дваццаць зваротаў у год.

**— Сапраўды, не вельмі шмат, асабліва калі ўлічыць мноства тавару ў магазінах і кіёсках. Генадзь Абрамавіч, а чаму такая малая колькасць пацярпеўшых пакупнікоў звяртаецца да вас з просьбай аб дапамозе?**

— Справа ў тым, што большая частка прэтэнзій разбіраецца на месцах. Ці гэта адміністрацыя магазіна, ці органы кіравання гандлю пры выканкоме, ці суд. У любым выпадку закон стаіць на варце інтарэсаў спажыўца. І наогул у гэтым напрамку праводзіцца даволі жорсткая палітыка. Можа, часам крыху і з перагібам, але ў цэлым закон упэўнена абараняе правы пакупніка.

**— Напэўна, гэта датычыцца толькі дзяржаўных гандлёвых аб'яднанняў. А вось што рабіць, калі непрыгодны тавар набыты ў камерцыйным магазіне?**

— Гэта ў вас старыя ўяўленні аб гандлі. Цяпер закон распаўсюджваецца на ўсе гандлёвыя арганізацыі. Дарэчы, дзяржаўнага гандлю ў рэспубліцы засталося 25 працэнтаў. У нас цяпер акцыянерныя, народныя, арэндныя, прыватныя формы гандлю, спажыўкааперацыя. Таму цяпер гаварыць аб дзяржаўным гандлі як аб асноўным у рэспубліцы гэта, прынамсі, несур'ёзна. Дык вось, Закон аб абароне правоў спажыўца распаўсюджваецца на ўсе формы ўласнасці і ўсе віды гаспадарання. Іншае пытанне, што не ўсе выконваюць гэты закон, але гэта ўжо наша агульная бяда, наша, скажам так, агульнанацыянальная праблема законапаслухмянасці. І тут паўстае яшчэ адно пытанне. Кожны дзень адкрываюцца новыя магазіны, кіёскі і г. д. Па ідэі, новых уладальнікаў і іх работнікаў трэба было б падвучыць, расказаць хоць бы пра асноўныя палажэнні закона. Але і тут ёсць свае складанасці: дрэнна праходзіць інфармацыя, не ідуць на кантакт многія камерсанты. Мы спрабуем давесці закон да суб'ектаў гаспадарання. Вось, напрыклад, выдаём брашуру «Аб правілах гандлю і абароне правоў спажыўца». Яна будзе рэгулярна выходзіць раз у паўгода і ў роўнай ступені можа быць карысная і прадаўцу, і пакупніку. У «Белорусской торговой газете» пастаянна публікуюцца правілы і нормы гандлю. Дарэчы, сур'ёзныя камерсанты самі ідуць нам насустрач.

**— Вы хочаце сказаць, што бізнесмены паважаюць закон аб абароне правоў спажыўца?**

— Вядома, яны ж сур'ёзна вырашылі займацца бізнесам, і выкананне закона — іх асноўнае правіла. Да таго ж, многія камерсанты сур'ёзна клапоцяцца аб прэстыжы сваёй маркі і адносяцца да пакупніка вельмі паважліва. Іншая справа, што некаторыя з іх проста не ведаюць закона. Вось у гэтым выпадку задача нашага ўпраўлення — весці актыўную прапаганду сярод суб'ектаў гаспадарання.

**— Генадзь Абрамавіч, правілы закона распаўсюджваюцца і на рынак?**

— Вось тут усё куды больш складана. Рынак — гэта неарганізаваны сектар, і там прававыя нарматывы не такія дзейсныя. Разумееце, калі вы купляеце рэч у магазіне або ў кіёску — вы заключаеце здзелку з суб'ектам гаспадарання, гэта значыць з юрыдычнай асобай. На рынку ж вы купляеце ў такой жа фізічнай асобы, як і вы, гэта значыць рызыкуеце. У нашым заканадаўстве няма пакуль праваадносінаў паміж дзвюма фізічнымі асобамі. Таму вам з вашага боку пры куплі тавару на рынку неабходна праяўляць разумную пільнасць: запатрабаваць у прадаўца сертыфікат якасці, атрымаць талончык на прададзеную рэч, папярэдне старанна яе агледзеўшы. Але, папярэджваю, у любым выпадку вы рызыкуеце. Дарэчы, гэта праблема існуе ва ўсім свеце. Бо ўсюды ёсць так званыя «блышыныя рынкі», дзе можна купіць тавар значна танней, чым у магазіне. Але што рабіць? Калі вы не хочаце плаціць даражэй, тады рызыкуеце, прыходзячы на рынак. І таму будзьце пільнымі.

**— Генадзь Абрамавіч, давайце цяпер пагаворым пра якасць тавару. Як справы з якасцю айчыннага і імпартнага тавару?**

— Спачатку некалькі цікавых лічбаў. Возьмем харчовыя тавары. За дзевяць месяцаў гэтага года служба кантролю Прэзідэнта правяла 143 праверкі па якасці тавару. З іх у 130 выпадках устаноўлена парушэнне яго якасці. Вы ўяўляеце? 91 працэнт. Гэта вельмі многа. Глядзіце далей. Па каўбасах бракавалася (у працэнтах): 10 — нашых, 21 — імпартных. Па цэльнамалочных прадуктах: нашых — 15,3, імпартных — толькі 1 працэнт. Кандытарскія вырабы: нашых — 9,7, імпартных — 6 працэнтаў. Бульба, агародніна, садавіна: нашых — 15 працэнтаў, імпартных — 0,6. Віна-гарэлачныя: нашых забракавана 81 працэнт, імпартных — 17,2. Безалкагольныя: нашых — 15,3, імпартных — 1,6 працэнта. І яшчэ, імпартныя тавары бракуюць больш з-за тэрмінаў захоўвання, чым з-за якасці прадукцыі.

**— Атрымліваецца, што імпартныя прадукты больш якасныя, чым выраблены ў нашай рэспубліцы? Чаму так адбываецца?**

— Таму, што ўзровень вытворчасці за рубяжом вельмі высокі. Там такія патрабаванні да стандартаў якасці, такія тэхналогіі, што выраблядь брак проста немагчыма. Таму чуткі аб тым, што бываюць выпадкі атручэння імпартнымі прадуктамі, мякка кажучы, далёкія ад ісціны. Я нядаўна ў саставе нашай дэлегацыі наведаў кансервавы завод у Галандыі. Дык там захоўваецца такая стэрыльнасць, што мікроб не ведае, як туды і трапіць. Таму тыя прадукты, якія ідуць да нас з-за мяжы па афіцыйных каналах, па дакументах цалкам адпавядаюць усім стандартам якасці. Іншая справа, калі вы вырашылі купіць прадукты, скажам, кансервы ці мясныя вырабы, дзесьці на вуліцы, ды яшчэ на сонцапёку. Зразумела, тут вы вельмі рызыкуеце. Бо гандляваць прадуктамі без халадзільных установак ва ўсім свеце вельмі строга забаронена. Але, на жаль, у нас гэта здараецца. Таму хачу параіць: не эканомце на малым і купляйце прадукты ў абсталяваных магазінах. А таксама памятайце аб сваіх правах і не саромцеся пытацца ў прадаўцоў сертыфікат якасці.

**— А што з прамысловымі таварамі?**

—Трэба прызнаць, што ў апошні час моцна пагоршылася якасць айчынных, гэта значыць выробленых ў Беларусі, тавараў. Ужо неаднаразова гаварылася і пісалася аб велізарным браку тэлевізараў «Гарызонт». Вельмі няякасны абутак выпрабляецца ў рэспубліцы, верхняе адзенне і г. д. І наогул, становішча спраў з якасцю тавару, выробленага ў рэспубліцы, даволі няпэўнае.

**— На ваш погляд, у чым прычына такога нярадаснага становішча?**

— Канкурэнцыі няма — вось у чым прычына. Звернемся да статыстычных даных Міністэрства гандлю. Імпарт адзення ў нашай рэспубліцы складае ўсяго толькі 14 працэнтаў. Абутку крыху больш — 22,9 працэнта. Вярнуся да прадуктаў. Такім чынам, імпарт мяса — 3,2 працэнта. У нас у горшыя часы, пры савецкай уладзе імпартных адзення і абутку было на 40 працэнтаў. Таму размовы аб абароне айчыннага вытворцы вельмі перабольшаныя. Гэта несур'ёзна для канкурэнцыі. Нашы вытворцы ў такіх умовах пачынаюць працаваць горш, а не лепш. Вось глядзіце, дзе-нідзе ў рэспубліцы пачынаюць уводзіць талоны на масла. Гэта — вынік абмежаванага ўвозу імпартнага масла. А што будзе далей пры поўнай адсутнасці нармальнай канкурэнцыі? Чым можа абярнуцца для нас глухая абарона нашага вытворцы? Пустымі паліцамі ў магазінах.

**— Значыць, трэба ствараць канкурэнцыю?**

— Абавязкова. Звернемся, напрыклад, да суседняй Польшчы. Тры гады таму яна была завалена імпартнымі прадуктамі. А цяпер там увогуле няма імпартных прадуктаў харчавання. Калі мы спыталі, будучы ў Польшчы, як вы абараняеце свой рынак, то чулі толькі адзін адказ: «Канкурэнцыя!». Абарона дзяржавай свайго вытворцы, безумоўна, патрэбна. Але гэта настолькі тонкая грань, з якой трэба абыходзіцца вельмі асцярожна. А ў нас пад уплывам нейкіх лабіруючых сіл прымаюцца паспешлівыя рашэнні аб забароне ўвозу таго ці іншага тавару — і ўвесь выхад. А гэта ж асноўныя прынцыпы пабудовы эканомікі — канкурэнцыя і цэны. А ў нас адным махам ліквідуецца канкурэнт і ў выніку прайграе пакупнік.

**— Дык у чым жа выйсце, Генадзь Абрамавіч?**

— Выйсце не ў агульных разважаннях — давайце абараняць, давайце павышаць, — а ў тонка прадуманай палітыцы. Вось глядзіце: нам, работнікам гандлю, усё роўна якім таварам гандляваць, нашым ці імпартным. Толькі б яго было многа і ён быў якасны. Але нас абавязваюць, каб айчыннага тавару было ў магазінах не менш як 75 працэнтаў. Адміністрацыйна ўведзена 50 працэнтаў надбаўкі за імпарт, хоць на сваіх у нас надбаўка 20 працэнтаў. Вось і атрымліваецца, што дзяржава абараняе свайго вытворцу больш, чым ён таго заслугоўвае, таму што айчынныя вырабы вельмі далёкія ад дасканаласці.

**— І апошняе пытанне. Што б вы параілі чытачам нашай газеты менавіта як патэнцыяльным пакупнікам?**

— Параіў бы, па-першае, лепш ведаць свае правы. Дарэчы, з гэтай мэтай у кожным магазіне на бачным месцы прымацаваны плакат з пералікам правоў спажыўца. І па-другое, не баяцца карыстацца сваімі правамі. Бо пакупнік заўсёды мае рацыю.

**Гутарыў Сяргей КУЛАКОЎ.**



# Валожын. Партрэт горада ў перадзімовым інтэр'еры

Агульнавядома, як псуецца настрой, калі з надыходам першых маразоў радыятары ацяплення ў нашых кватэрах застаюцца халоднымі. На жаль, такія збоі сёння лічацца звычайнымі. Таму можна зразумець жыхароў Валожына, якія своечасова вызначылі па трубе мясцовай кацельні пачатак ацяпляльнага сезона. Дарэчы, сёлета гэты знак з коміна на дзіва малапрыметны: абсталяванне кацельні раней спажывала мазут, а цяпер — прыродны газ. Замена паліва дала трохразовую эканомію сродкаў на ацяпленне, значна палепшыла экалагічную абстаноўку ва ўсім горадзе (калісьці ў дні напружанай работы кацельні гаспадыні не рызыкавалі сушыць бялізну ў дварах!).



Побач з дзеючай вытворчасцю стаяць два новыя воданагравальныя катлы КВГМ-10. Валожынцы плануюць расшырэнне кацельні. Своечасова набытае абсталяванне дазволіць вырашыць усе праблемы паступлення гарачай вады ў кватэры гараджан.

Дарэчы, колькасць сучасных добраўпарадкаваных кватэр у горадзе сёлета значна павялічыцца. На вуліцы Міру да канца года будзе здадзены ў эксплуатацыю яшчэ адзін пяціпавярховы дом, узведзены жыллёва-будаўнічым кааператывам. Навасёламі ў ім пашчасціць стаць шматдзетным сем'ям і тым, хто не маючы кватэры, шмат часу прастаяў у чарзе на яе атрыманне. Варта прывесці два прыклады са спіса будучых навасёлаў: пяціпакаёвую кватэру атрымае радавы працаўнік райаграпрамтэхнікі Д. Рабкевіч на сям'ю з шасці чалавек, у двухпакаёвай паселіцца сям'я настаўніцы С. Макарэвіч з двух чалавек.

Не толькі ў жылых кварталах шчыруюць будаўнікі — кіпіць праца і на тэрыторыі раённай бальніцы. У Валожыне паэтапна ажыццяўляецца план рэканструкцыі і расшырэння гэтай установы. Сёння тут ужо можна ўбачыць новыя лячэбныя і гаспадарчыя карпусы, будуецца акушэрска-гінекалагічны корпус. Частка насельніцтва раёна пражывае на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях, таму валожынцы дбаюць аб пашырэнні медыцынскага гарадка, аснашчэнні лячэбных кабінетаў сучаснымі прыборамі і абсталяваннем. На фоне перамен такога маштабу амаль не заўважаюцца маленькія, будзённыя перамены ў гарадскім жыцці, але і яны ўносяць свой штрых у партрэт райцэнтра. Прыметна папрыгажэлі вуліцы горада, добраўпарадкавана праезная частка, абноўлены тратуары. Здзівіла, што ў многіх месцах адзін тратуар заліты асфальтам, а суседні выкладзены пліткамі з невялічкімі шчылінамі для сцёку вады. Прахожыя валожанкі растлумачылі, што асфальтаваную роўнядзь зрабілі менавіта для ўладальніц тонкіх абцасікаў — каб не псаваўся абутак.

Шчыра кажучы, такой жаночай версіі я не надта паверыў — на жаль, рэчаіснасць не падносіць нам прыкладаў клопату пра звычайнага пешахода. Але ж менавіта з дробных праяў увагі да кожнага жыхара і павінны складвацца вялікія планы кіраўніцтва кожнай вёскі, пасёлка, горада.



**На здымках**: за дзейнасцю пераабсталяваных катлоў сочаць дырэктар кацельні С. Сакалоўскі і старшы аператар Ф. Карпук; падрастае новы дом ЖБК; галоўны ўрач райбальніцы М. Грыко і намеснік старшыні райвыканкома па будаўніцтву У. Уэльскі абмяркоўваюць будаўніцтва новых карпусоў медыцынскага гарадка.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**
**Фота аўтара.**

У ГАСЦЯХ — «ЗОРКА»

## Аляксандр РАЗЕНБАЎМ:

# «ГРОШЫ ДЛЯ МЯНЕ — УСЯГО ТОЛЬКІ СРОДАК ПЕРАМЯШЧЭННЯ»

***На мінулым тыдні беларускую сталіцу наведаў выдатны расійскі спявак і музыкант Аляксандр Разенбаўм. Яго трохгадзіннае выступленне адбылося на сцэне канцэртнай залы «Мінск». Несумненна, ягоная творчасць закранула душы і сэрцы многіх людзей. І нават нягледзячы на тое, што кошт білетаў дасягаў 400 тысяч рублёў, зала была запоўнена. «Даўно ў мяне не было такога канцэрта, — сказаў Разенбаўм, — і я вельмі задаволены, што ён адбыўся». Спеваку падарылі мноства кветак, ён жа ў сваю чаргу раздаў не меншую колькасць аўтографаў.***

Пасля заканчэння канцэрта Аляксандр Разенбаўм ветліва згадзіўся адказаць на пытанні карэспандэнта «Звязды».

**— Аляксандр Якаўлевіч, кожны аўтар вельмі раўніва ставіцца да сваіх твораў — вершаў, карцін, музыкі. Чым для вас з'яўляюцца вашы песні?**

— Мае песні — мае дзеці. Я ведаю, адкуль у вас з'явілася такое пытанне. Аднойчы ў час запісу перадачы «Музычны рынг» яе вядучая мадам Максімава так «дастала» мяне сваімі пытаннямі, што мне ўжо надакучыла «адбрыквацца», і тады я сказаў: добра, гэтыя песні для «капуснікаў», чаго вы прычапіліся да мяне? І вось пры мантажы перадачы ўсе мае добрыя словы пра песні, сур'ёзныя разважанні аказаліся выразанымі, а гэтая адзіная фраза, сказаная ў запале, выйшла ў эфір. Таму людзі, якія бачылі гэтую перадачу, напэўна, і думаюць, што я проста адмаўляюся ад сваіх твораў, што творчасць для мяне — камерцыя, песні — тавар, які можна выгадна збыць пры выпадку. Гэта не так. Я ўпэўнены, што мае песні будуць гучаць вечна.

**— Хтосьці з вашых прыхільнікаў аднойчы назваў вас прарокам...**

— Я не прарок, ніколі не быў ім і нават не ведаю, што гэта такое. Быў бы я прарокам — мусіць, можна было б ужо сёння ісці на пенсію і нічога не рабіць. Я ж спяваю сёння, і заўтра буду спяваць.

**— Аляксандр Якаўлевіч, за многія гады сваіх выступленняў вы аб'ездзілі безліч гарадоў, бывалі за мяжой, далі мноства канцэртаў. Наша жыццё зараз імкліва мяняецца. Скажыце, як мяняецца разам з ім ваш слухач, меламан?**

— Мяняецца. І вельмі істотна. Жорсткія ўмовы рэчаіснасці дыктуюць свае правілы. Людзі сталі больш замкнёнымі ў сабе, праблемы не даюць расслабіцца. Хоць, вядома, не заўсёды і не ўсюды так. Канцэрты бываюць розныя. Мне часта даводзіцца выступаць у розных закрытых клубах, дзе балюе публіка з грашамі. І вось тут больш за ўсё заўважаеш, наколькі мы змяніліся. Я разумею, што мы ідзём па так званаму «цывілізаванаму» шляху развіцця, капіруем Еўропу, Амерыку. Можа, для эканомікі гэта і патрэбна. А для душы? На Захадзе людзі зусім іншыя: сядзіш з чалавекам за сталом, прыемна размаўляеш, ён усміхаецца ва ўвесь рот. Закранеш у гутарцы якое-небудзь асабістае, балючае для цябе пытанне — яго ўсмешка адразу ж тухне: маўляў, прабач, гэта не мае праблемы. Сёння я заўважаю, што і многія нашы суайчыннікі становяцца такімі ж. Гэта самае страшнае для мяне.

**— Скажыце, наколькі для вас важная такая з'ява, як быт?**

— Што тычыцца паездак, то тут для мяне дастаткова, каб у нумары былі зручны ложак і гарачая вада. А наогул я лічу, што павага ў адносінах да вядомага чалавека не павінна залежыць ад колькасці яго паездак у метро. Было б неразумна, калі б я зараз апусціўся ў падземку і паехаў бы разам з усімі. Я так лічу, калі чалавек мае магчымасць, то ён павінен мець усё для свайго камфорту. Артыст неабавязкова павінен быць галодным і халодным — гэта стары, савецкі пункт погляду: калі чалавек, «надраўшыся» да непрытомнасці, ляжыць пад піўным ларком — ён наш, а калі ён усё мае — то сумленне ў яго дакладна нячыстае.

**— Калі вы так лічыце, то што значаць для вас грошы?**

— Грошы для мяне — проста... сродак перамяшчэння. Аднойчы я пазнаёміўся з таксістам, і ён мне сказаў такую рэч: машына для мяне — гэта конь, на якім я нашуся, як рамізнік, каб пракарміць сям'ю. Я з ім поўнасцю згодзен. Асабліва гэта важна для мужыка: калі ты вырашыў абзавесціся сям'ёй, то павінен ведаць, што зможаш пракарміць сябе, жонку, дзяцей.

Вядома, тут у кожнага праблемы на сваім узроўні. Аднаму дастаткова мець кватэру, тэлевізар, халадзільнік. Другому — катэдж трохузроўневы, «Кадзілак» ці «Лінкольн», штогадовы адпачынак на Багамах...

Што датычыць мяне... У прынцыпе я чалавек забяспечаны для свайго ўзроўню. Але, скажыце, ці шмат бачылі маіх кліпаў па тэлевізары? Магу вас запэўніць: ні разу! У мяне няма на іх грошай. Па спонсарах я не хаджу. Мне хапае сродкаў на адзенне, ежу, паездкі туды-сюды. Аднак я не магу дазволіць сабе шмат чаго іншага: пары «кадзілакаў», скажам. І нічога, перажыву.

**— Аляксандр Якаўлевіч, што вы думаеце пра сённяшнюю «папсовую» музыку і выканаўцаў?**

— Я лічу іх вялікімі махлярамі. Пераважна гэта людзі, якім усё можна. Яны проста падманваюць людзей, сваіх прыхільнікаў: у васьмідзесяці працэнтах выпадкаў яны спяваюць пад фанаграму. Я лічу, што ў такім разе і трэба пісаць на афішах: спяваю пад фанаграму. Тады, ідучы на канцэрт, я буду ведаць, што пачую запіс любімых песень ці ўбачу свайго куміра. І ўсё. Гэта несур'ёзная работа, непрафесіянальная з боку спевакоў.

**— Вы любіце кампаніі? Як вы ставіцеся да алкаголю?**

— У мяне ніколі не было прывычкі піць і, упэўнены, не будзе. Што датычыць кампаній... Я бываю з блізкімі сябрамі, мы разам адпачываем, спяваем, але, калі яны кажуць: Саша, давай вып'ем сто грам, то гэта азначае ў адносінах да мяне звычайны фруктовы сок. Наогул, час, праведзены з сябрам, — гэта найлепшы від адпачынку.

**— Вы — веруючы чалавек?**

— Вельмі складанае для мяне пытанне. Не ведаю... Мне здаецца, што я — няверуючы, таму што я проста фізічна не магу жыць, спадзеючыся на нейкі дух. Можа быць, з гадамі ўсё будзе іначай. Мне здаецца, што ў любы момант я змагу адкрыцца Богу, але пакуль лічу гэта непатрэбным.

**— Ці займаецеся вы спортам?**

— Займаюся з вялікім задавальненнем. У дзяцінстве і маладосці вельмі любіў футбол, зараз маё захапленне — бокс.

**— А што вы любіце яшчэ ў сваім жыцці?**

— Яшчэ? Я вельмі люблю свайго сабаку. Артыст часам бывае адзінокім, бывае такі настрой і ў мяне. Тады я нікога не хачу бачыць, акрамя свайго сабакі. Ён вельмі ратуе мяне ад розных кампаній ці калі мне кепска.

**— Што вы пажадаеце чытачам «Звязды»?**

— Удачы! Я ўпэўнены, што сярод іх ёсць нямала маіх шчырых прыхільнікаў. Я вельмі ўдзячны ім за вернасць — і тым, якія прыйшлі на мой канцэрт, і тым, якія не змаглі на яго трапіць...

**Гутарыла Вольга РАМАНЮК.**

# Насельніцтва Зямлі на працягу бліжэйшых 25 гадоў павялічыцца на 23 працэнты

Чакаецца, што на працягу бліжэйшых 25 гадоў колькасць насельніцтва Зямлі павялічыцца на 1,8 мільярда чалавек і дасягне 7,8 мільярда чалавек, гаворыцца ў сумесным дакладзе, падрыхтаваным Міністэрствам гандлю ЗША і Агенцтвам па міжнароднаму развіццю.

Вынікі гэтага росту з пункту гледжання сацыяльнага і эканамічнага развіцця могуць быць вельмі сур'ёзнымі, паколькі ўжо з 1996 г. 95 з кожных 100 нованароджаных з'яўляюцца на свет у найменш развітых краінах, гаворыцца ў дакладзе пад назвай «Карціна народанасельніцтва Зямлі за 1996 г.».

Тэмпы прыросту народанасельніцтва знізіліся ў параўнанні з найвышэйшай у гісторыі лічбай, якая ў перыяд 1962—64 гг. складала каля 2,2 працэнта, і ў першай палове 1990 г. — каля 1,5 працэнта; чакаецца, што на працягу першай чвэрці наступнага стагоддзя гэты паказчык прадоўжыць зніжэнне і дойдзе да 1 працэнта.

Самыя высокія тэмпы сярод буйных рэгіёнаў Зямлі назіраюцца ў Афрыцы, у краінах, размешчаных на поўдзень ад Сахары. Чакаецца, што агульная колькасць насельніцтва ў гэтым рэгіёне павялічыцца з менш чым 600 млн. чалавек у 1996 г. да больш чым 1 млрд. чалавек у 2020 г. За перыяд, які аддзяляе нас ад 2000 г., у краінах Азіі, якія развіваюцца, з'явяцца на свет 176 млн. чалавек, пры гэтым 44 млн. чалавек — толькі ў Кітаі. На працягу гэтага перыяду ў іншых развіццёвых краінах народзяцца 126 млн. чалавек, а ў Злучаных Штатах і іншых развітых краінах — 18 млн. чалавек.

Колькасць народанасельніцтва, якая прыпадае на долю больш развітых краін, знізілася з 27 працэнтаў у 1970 годзе да 20 працэнтаў у 1976 годзе. Калі цяперашняя тэндэнцыя захаваецца, праз 25 гадоў гэта доля складзе толькі 16 працэнтаў, гаворыцца ў дакладзе.

Смяротнасць на 1000 нованароджаных сярод дзяцей ва ўзросце да 5 гадоў самая высокая ў краінах Афрыкі, размешчаных на поўдзень ад Сахары, і складае 160 чалавек. Для параўнання: у краінах Заходняй Еўропы, Паўночнай Амерыкі, у Японіі і Акіяніі гэты паказчык складае 9 смерцяў на 1000 нованароджаных.

Захворванне на СНІД з'яўляецца прычынай 22 працэнтаў усіх смерцяў у 23 краінах, вялікі працэнт насельніцтва якіх паражоны гэтай хваробай, пры гэтым чакаецца, што да 2010 г. гэты паказчык складзе ўжо 38 працэнтаў. У дакладзе выказваецца меркаванне аб тым, што ў перыяд з 1996-га па 2010 г. ад СНІДу памрэ амаль 50 млн.

**Джон ШЭЙФЕР, ЮСІА.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 12 лістапада

### Беларускае тэлебачанне

**7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма. **8.30** Абібок. **9.00** Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 8-ы клас. Асвета і культура Беларусі ў канцы XVII — першай палове XIX стагоддзяў. **9.30** «Не хачу і не буду», «Сапраўдныя сябры». Мультфільмы. **9.50** Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак. **10.20** «Галасы мінуўшчыны». Старадаўняя музыка на Беларусі. **10.50** «Трапічная спёка». Тэлесерыял (ЗША). **11.50** Чацвёртае вымярэнне. Навукова-асветніцкая праграма. **12.25** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма. **15.00** Навіны. **15.10** «Капітан», «Заканчвалася лета». Кароткаметражныя фільмы для дзяцей. **16.00** «Справа мінулая», «Паўночная казка». Мультфільмы. **16.20** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. Максім Гарэцкі і яго творчасць. **16.50** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма для дзяцей. **17.15** Востры вугал. Прававая праграма па пісьмах гледачоў. **17.45** Урокі Наталлі Наважылавай. **18.15** «Будзьце здаровы». **18.25** Музычны антракт. **18.35** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** Рэферэндум: шчырая размова. **19.35** «Трапічная спёка». Тэлесерыял (ЗША). **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.10** «Зоркі» на экране. А. Фацюшын, І. Алфёрава ў мастацкім фільме «Кроў за кроў». **23.50** Навіны.

### ГРТ

**8.00** Навіны. **8.15** «Новая ахвяра». **9.05** «Калі...» Вядучы У. Познер. **9.45** Смехапанарама. Вядучы Я. Петрасян. **10.15** «Не хачу і не буду». Мультфільм. **10.30** «Угадай мелодыю». **11.00** Навіны (з сурдаперакладам). **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.55** «Народжаная рэвалюцыяй». 3-я серыя. **13.15** Брэйн-рынг. **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Касмічныя выратавальнікі лейтэнанта Марша». **14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.55** Мульцітролія. **15.10** Чароўны свет, ці Сінема. **15.40** «Карын і яе сабака». **16.05** ... Да шаснаццаці і старэйшым. **16.30** «Вакол свету». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** «Гадзіна пік». **18.35** «Угадай мелодыю». **19.00** Тэма. **19.45** Спакойнай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.40** Зоя Фёдарава ў фільме «Сяброўкі». **22.35** Хакей. Еўраліга. «Дынама» (Масква) — «Валерэнген» (Осла) 2-і і 3-і перыяды. **00.05** Серыял «Пятніца, 13».

### Канал «Расія»

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі. **7.20** Прыёмная доктара Багданава. **7.30** Ранішні экспрэс-2. **8.00** Рэтра-шлягер. **8.25** «Дарагая рэдакцыя...» **8.55** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **9.50, 23.25** Тавары — поштай. **16.20** Блак-нот. **16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў. **17.10** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.20** Пункт апоры. «Ферары ў нябёсах». **17.45** Надзвычайны канал. **18.10** Лідэр-прагноз. **18.40** Асабліва важныя персоны. **19.30** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **20.30** Раз у тыдзень. **21.00** Надвор'е на заўтра. **21.05** Мужчына і жанчына. **21.45** Ціхі дом. Праграма С. Шолахава. **22.25** «Эх, дарогі!» **23.35** «Хто на што здатны». **23.50** Гарачая дзесятка. **0.45** Музыка ўсіх пакаленняў.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 23.35** Інфарм ТБ. **12.10** «Партрэт жанчыны». Серыял (Бразілія). Заключная серыя. **13.00** Тэрмін адказу — сёння. **13.30** Парады садаводам. **13.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі. **14.05** «Забойны аддзел». Серыял (ЗША). **14.55** Творчая сустрэча. Юлій Кім. **16.10** Тата, мама і я — спартыўная сям'я. **16.35** «Інспектар Гэджэт». Мультсерыял. **17.05** Дзіцячае ТБ: «Дзецям пра зверанят». **17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Партрэт жанчыны». Серыял (Бразілія). Заключная серыя. **20.15** Раман з героем. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** «Забойны аддзел». Серыял (ЗША). **21.55** Падзея. **22.10** «Інспектар паліцыі». Маст. фільм (Індыя). 1-я серыя.

### НТБ. «Расійскія універсітэты»

**7.00** Сёння раніцай. **9.00** Ранішні сеанс. Маст. фільм «Сямейка Флодэр у Амерыцы» (Галандыя). **11.00** Сёння апоўдні. **13.00** Сёння ўдзень. **13.15** Вялікая часінка. **15.00** Сёння ўдзень. **15.30** Дыстанцыя 60. **16.30** Кінатэатр юнага гледача. Маст. фільм «Блакітнае дрэва». 2-я серыя (Аргенціна—Італія). **17.30** Праграма для дзяцей. «Вуліца Сезам». **18.00** Сёння вечарам. **18.35** Герой дня. **19.00** Свет кіно. Луі дэ Фюнес у фільме «Суп з капустай» (Францыя). **20.45** Доктар Вугал. **21.00** Сёння вечарам. **21.35** Час серыяла. «За мяжой магчымага». 2-я серыя (ЗША). **22.30** Часінка. **23.00** Сёння апоўначы. **23.20** Меламанія. «Пэт Шоп Бойз».

### 8-ы канал

**18.00** Мультфільм «Кароль леў». **18.45** Маст. фільм «Дарагая Алена Сяргееўна». **20.15** Мульціпланета. **20.45** Серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга». **21.55** Ваша рэклама. **22.00** Навукова-папулярны экран. **22.15** Маст. фільм «Пагоня». **23.55** Без каментарыя.

Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС № 527663 серыі А, выдадзенае на імя Івана Міхайлавіча КІРЫЛА, лічыць несапраўдным.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7129.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12